№ 9 (894) 4 сакавіка 2015 www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Аднаўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады



# Барыс забіты

# Надзея памірае



Палонная лётчыца Надзея Саўчанка трымае галадоўку ў расійскай турме. Яна патрабуе вызвалення. Калі вы прачытаеце гэтыя радкі, яе можа ўжо не быць у жывых.
На скрыншоце з відэатрансляцыі: яна была не ў стане з'явіцца ў суд і ўдзельнічала ў пасяджэнні па відэасувязі. 2 сакавіка Пятро Парашэнка прысвоіў ёй званне Героя Украіны.

Старонка 3

## Падпішыся сам, падпішы дзядоў!

«Наша Ніва» без вас не выжыве.
А вы з «Нашай Нівай» будзеце мець у хаце ўсю праўдзівую інфармацыю.
**Як падпісацца — старонка 2.**

# Нямцова забілі ў стылі фашысцкіх рэжымаў

**Забойства адбылося пад сценамі Крамля, дзе натыканыя відэакамеры. Напярэдадні Марша пратэсту, калі за ім шчыльна сачылі спецслужбы. У момант, калі побач праязджаў снегаачышчальнік, які заглушыў гукі стральбы і захінуў камеру. Кілер дзейнічаў так дасканала, што спадарожніца палітыка не паспела яго нават разгледзець.**


Забілі побач з Крамлём.

Позна ўвечары 27 лютага невядомы злачынца выпусціў шэсць куляў у палітыка Барыса Нямцова. Чатыры з іх былі трапнымі. Ад атрыманых ранаў у галаву сэрца, пячонку і страўнік Нямцоў памёр на месцы.

Спачатку ў гэта не верылася. Думалася, чарговы фэйк ахвочых на сенсацыі выданняў. І праз колькі хвілін сам Нямцоў пасмяецца з гэткай бздуры на старонцы ў фэйсбуку. На жаль, не. І МУС Расіі пацвердзіла, што на Вялікім Масквварэцкім мосце сапраўды быў застрэлены «грамадзянін з пашпартам на імя Барыса Яфімавіча Нямцова».

Прайшла нейкая гадзіна — і фоткі з целам Нямцова на фоне Крамля абляцелі інтэрнэт.

Так, гэта адбылося пад самым ахоўваным месцам расійскай сталіцы, нашпігаванай камерамі назірання. Але ж во дзіва! На тых кадрах, што спецслужбы злілі ў інтэрнэт, момант забойства захінае вялізная снегаўборачная машына. А іншыя камеры, па непацверджанай інфармацыі, не працавалі ўвогуле. Ці бываюць такія супадзенні?

### Крытык Пуціна

Нямцову было 55 гадоў, але ён трымаў сябе ў выдатнай фізічнай форме, не дазваляючы рассыпацца, маладзіўся.

Ён рана ўзышоў на расійскі палітычны алімп. У 32 гады стаў губернатарам Ніжагародскай вобласці. Дарэчы, менавіта ён пралабіраваў перайменаванне кіраўнікоў абласцей у губернатараў. За 6 гадоў працы губернатарам Нямцоў заслужыў сабе славу рэфарматара, яго ставілі ў прыклад іншым мясцовым кіраўнікам.

Не дзіва, што пасля Ельцын перацягвае ініцыятыўнага рэгіянала ў Маскву. Спачатку Нямцова прызначаюць міністрам энергетыкі, а пасля першым віцэ-прэм'ерам краіны (палітыку ў той час няма яшчэ і 40). Праўда, затрымацца надоўга ва ўрадзе Нямцову не ўдаецца. У Расіі якраз адбываецца славуты жнівеньскі дэфолт 1998 года. Крайнімі становяцца маладыя ліберáлы-рэфарматары — Нямцоў, Чубайс, Кірыенка.

У хуткім часе Нямцоў узначальвае партыю «Саюз правых сілаў», якая спачатку рэгулярна праходзіць у парламент. Некалькі гадоў ён адпрацаваў старшынёй рады дырэктараў канцэрна «Нафтавы», што дазволіла зарабіць немалыя грошы.

Чым глыбей Расія скатвалася ў аўтарытарызм, тым менш прыхільным да ўлады Пуціна рабіўся Нямцоў. Ён стаў адным з найбольш жорсткіх крытыкаў расійскага прэзідэнта.

Нямцоў адкрыта падтрымліваў Ючшанку падчас Аранжавай рэвалюцыі, сябраваў з Міхаілам Саакашвілі, бэсціў Лукашэнку (Нямцову на нейкі час забараняллі ўезд на тэрыторыю Беларусі і адзін раз нават сілай дэпартавалі з Мінска). А цяпер, падчас вайны ва Украіне, Нямцоў быў адным з нямногіх расійскіх палітыкаў, хто ясна казаў, што «Крым не наш». Ён асуджаў вайсковую агрэсію Расіі супраць Украіны. Пятро Парашэнка нават назваў Нямцова «мастком між Расіяй і Украінай, які невыпадкова зруйнаваў забойца».

Нельга сказаць, што Нямцоў меў вялікую падтрымку сярод суайчыннікаў, таму ён свядома саступіў лідарства ў апазіцыі Аляксею Навальнаму.

Нямцоў мог з'ехаць за мяжу, весці там прыгожы лад жыцця, сродкаў бы хапіла, але ён заставаўся ў Маскве, бязлітасна крытыкуючы Пуціна. За два месяцы да гібелі ў інтэрв'ю выданню «Собеседник» Нямцоў сказаў, што асцерагаецца забойства. Тым не менш, палітык нават не меў уласнай аховы. У яго быў толькі кіроўца, які, калі спатрэбіцца, мог выканаць і ролю бодзігарда. У той фатальны вечар 27 лютага Нямцоў адпусціў ахоўніка дадому...


Барыс быў паламяным аратарам.

### Як гэта было

Нямцоў разам са сваёй сяброўкай, 23-гадовай украінскай мадэллю Ганнай Дурыцкай, павячэраў у ГУМе. Расійскія прапагандысты з радасцю паведамілі, што апошняй ежай палітыка былі вустрыцы і тартар (маўляў, глядзіце, які буржуй). А пасля яны пайшлі пешшу да дома Нямцова на Вялікай Ардынцы. На мосце праз Маскву-раку і адбылося забойства.

Усе сыходзяцца ў меркаванні, што забойца выдатна ведаў маршрут Нямцова, што за ім сачылі цягам дня. Няма нават яснасці, адкуль узяўся забойца. Спачатку гаварылі, што ён проста страляў з машыны. Але пазнейшае відэа сведчыць, што гэты чалавек ці хаваўся дзесьці на мосце (там якраз недалёка быў спуск на набярэжную), ці ўвогуле мог выскачыць са снегаўборачнай машыны.

### Лябедзька: Такія, як Барыс, або згараюць, або іх знішчаюць

Лідар АГП Анатоль Лябедзька быў добра знаёмы з Нямцовым. Яны не раз сустракаліся ў Мінску, Маскве, за мяжой. Лябедзька гэтак адгукнуўся на смерць сябра.

«Першая рэакцыя — шок! Але калі ўдумацца, угледзецца ў тое, што адбываецца ў сённяшняй Расіі, то разумееш нейкую зададзенасць і асуджанасць. Па колькасці нянавісці, злосці, хлусні на душу Расія — адзін з сусветных лідараў. Гэтыя вар'яцкія, палітычныя оргіі на тэлебачанні. Гэта бразганне чаравікам па трыбуне. Гэта зухаватае цкаванне іншадумства. Усё гэта абясцэньвае і так недарагое чалавечае жыццё, у такой атмасферы такія, як Барыс, альбо згараюць, альбо іх нішчаць…

P.S. На наступным тыдні мы павінны былі сустрэцца ў Вільні».

### Самае чытанае на nn.by за 25 лютага — 3 сакавіка

1 У Мінску джыпу са сцягам Наваросіі прабілі колы
2 Дзеці беларускіх топ-чыноўнікаў: хто яны?
3 У цэнтры Масквы забіты лідар расійскай апазіцыі Барыс Нямцоў
4 Дзясяткі тысяч людзей выйшлі ў Маскве на марш гневу і памяці Барыса Нямцова
5 Спадарожніца Нямцова: кілер быў настолькі прафесійны, што не паспела нават заўважыць яго
6 Макарэвіч пра смерць Нямцова: Не ўдзельнічайце, прашу вас
7 Беларускі рэзервіст: 12 урокаў войска
8 Маштаб акцыі памяці Нямцова ў Маскве — фота з вялікай вышыні
9 Зянон Пазняк: «Пуцін страшнейшы за Гітлера, бо ў Гітлера не было атамнай бомбы і тэлебачання»
10 ТВЦ апублікаваў «відэа моманту забойства Нямцова»


Маштаб акцыі памяці Нямцова ў Маскве.

Ганна Дурыцкая, сведка падзеяў, кажа: «Усё адбылося настолькі імгненна, што я нават не паспела зрэагаваць». Адкуль з'явіўся кілер, дзяўчына не заўважыла, бо ён быў за спінай.

Яны ішлі, узяўшыся за рукі. Раптам пачуліся нягучныя хлапкі, Нямцоў упаў. Калі Дурыцкая павярнулася, яна заўважыла толькі светлую машыну, якая ад'язджала. Ні нумар, ні мадэль аўтамабіля спадарожніца Нямцова не запомніла. Ганна Дурыцкая паведаміла тэлеканалу «Дождь», што пасля забойства яна падышла да кіроўцы машыны камунальных службаў. Той ёй сказаў, як патэлефанавалі ў паліцыю, і з'ехаў (а тэлеканалу Life News ён казаў, што сам выклікаў паліцэйскіх). Прыкладна праз 10 хвілін, па словах Дурыцкай, да месца забойства прыехалі паліцэйскія.

З гэтых 10 хвілін у інтэрнэце іранізавалі: калі б на Пуціна быў там замах — за секунды прыляцелі б.

Яшчэ адна адметнасць: забойства адбылося за два дні да акцыі пратэсту расійскай апазіцыі, што прызначалася на 1 сакавіка.

### Танцы на касцях

Не паспелі цела палітыка адвезці ў морг, як расійскія прапагандысты сталі раскручваць версію, што Нямцоў — гэта «сакральная ахвяра», забітая з мэтай дэстабілізаваць сітуацыю ўнутры краіны. Маўляў, забойства маглі замовіць украінцы ці амерыканцы (ці хто там яшчэ ворагі Расіі?)

Палітычнай правакацыяй назваў гэта Уладзімір Пуцін. Яго словы паўтарылі і Жырыноўскі, і Зюганаў, і астатняя марыянеткі расійскай палітычнай і каляпалітычнай сцэны.

А тэлеканал Life News пайшоў яшчэ далей, абвясціўшы, што матывам забойства магла быць асабістая помста: маўляў, ягоная дзяўчына нядаўна рабіла аборт у Швейцарыі. Але хто мог за гэта помсціць?

### А Пуцін?

Тое, што не выказалі следчыя, давялося выказваць сябрам Нямцова. Грыгорый Яўлінскі, Уладзімір Мілоў, Міхаіл Касьянаў, Генадзь Гудкоў наўпрост заявілі, што адказнасць за забойства Нямцова нясе расійская ўлада і асабіста Пуцін.

«На мой погляд, версіі дзве: 1 Нямцова забілі ўлады; 2. Нямцова забілі нейкія адмарозкі з ліку «навароснутых на ўсю галаву», чый гвалт і вар'яцтва было справакавана імперскай істэрыяй уладаў апошняга года», — напісаў лідар партыі «Дэмакратычны выбар» Уладзімір Мілоў.

«Упэўнены, што замоўца — Пуцін, — напісаў стрыечны брат Нямцова сацыёлаг Ігар Эйдман. — Цяпер многія пішуць, што Пуцін не аддаваў загад аб забойстве Нямцова, але вінаваты ў тым, што выпусціў джына нянавісці з бутэлькі, стварыў атмасферу шавіністычнай істэрыі ў краіне. А ў выніку гэтага нейкія адмарозкі забілі Бору. А я ўпэўнены, што менавіта Пуцін у той ці іншай форме асабіста аддаў загад забіць Нямцова».

**Навумчык: Пуцін павінен адправіць у адстаўку ФСБ**

«Цяпер Пуцін павінен зняць усё кіраўніцтва ФСБ. Таму што забойства побач з Крамлём (нават не былога віцэ-прэм'ера і дэпутата, няважна каго) і бесперашкоднае знікненне забойцы — азначае, што некалькі сотняў супрацоўнікаў ФСБ, якія штохвілінна кантралююць кожны метр гэтай тэрыторыі — у той момант нажэрліся як свінні і не бачылі далей бутэлькі. Іншага варыянту няма. Іншы варыянт азначае, што да забойства Нямцова спецслужбы маюць самае непасрэднае дачыненне», — напісаў журналіст, былы дэпутат Вярхоўнага Савета Беларусі Сяргей Навумчык.

### Злачынцы не знойдзеныя

Расследаванне справы стаіць на месцы. Здаецца, следчыя не маюць ніякіх зачэпак. Па-ранейшаму не адшуканая машына, на якой з'ехаў забойца, няма і фотаробата злачынцы. У Расіі яшчэ ніколі не знаходзілі выканаўцаў гучных забойстваў — гэтак было з Лісцьевым, з Палітkоўскай, з Магніцкім, з Маркелавым. Відаць, тое самае будзе і ў справе Нямцова.

1 сакавіка на жалобнае шэсце памяці Барыса Нямцова выйшла каля 100 тысяч чалавек. Тысячы і тысячы прыйшлі на развітанне з палітыкам.

У забойстве Нямцова чытаецца стылістыка забойстваў, што адбываліся пры фашысцкіх рэжымах. Гэтак у Італіі 1920-х Беніта Мусаліні пазбавіўся ад сацыяліста Джакома Матэёці. І тады вяліся афіцыйныя расследаванні, і Мусаліні выказваў афіцыйныя спачуванні сям'і ахвяры. Але вінаватыя так і не былі пакараныя.

**Зміцер Панкавец**

# Зло перамагло

Піша **Святлана Калінкіна**.

Калі такое здараецца, перастаеш верыць у найвышэйшую справядлівасць, у Божую задуму існавання гэтага свету, у абавязковую перамогу дабра над злом.

Тым, хто ведаў Нямцова толькі па інтэрв'ю, нават цяжка ўявіць, колькі людзей могуць сказаць пра яго выключна добрыя словы без пафасу і нават без палітыкі. Тысячы! Гэта быў чалавек-свята, разумнік, феерычны аптыміст, у нейкім сэнсе палітычны Робін Гуд, у існаванне якіх у наш час проста складана паверыць ...

І вось цяпер яго няма. Забіты чатырма стрэламі ў спіну.

Зло цяпер перамагло.

Не буду казаць пра палітыку, не буду казаць пра тысячы, дзясяткі тысяч, сотні тысяч людзей, якія ўдзячныя Барысу за тое, што ён быў. Скажу пра сябе.

У мяне на памяць ад Нямцова застаўся гадзіннік. Аднойчы так выйшла, што проста ў дзень нараджэння мне трэба было быць у Маскве. І прыхапкам, выязджаючы з дому, я забылася мабільнік. Гадзіннік ніколі не насіла, а таму аказалася ў Маскве абсалютна дэзарыентаваная ў часе.

Слова за слова і Барыс кажа: «Лепш сама скажы, што табе падарыць на Дзень нараджэння. Інакш павязеш у Мінск паўтараметровую матрошку».

Ну я і сказала: «Гадзіннік. Які-небудзь самы прасценькі». Хоць, шчыра кажучы, сама я мела намер купіць новы мабільнік. Але папрасіць тэлефон у якасці падарунка палічыла няправільным, бо занадта дорага. А гадзіннік капейкі каштуе.

Праз нейкі час мне быў з добрымі пажаданнямі ўручаны гадзіннік. Прасценькі, як я і прасіла. Без наваротаў і цыганшчыны.

Колькі гадоў пасля таго прайшло, я ўжо дакладна не скажу. Год, два, тры... Але аднойчы гадзіннік спыніўся і быў закінуты ў нейкую шуфлядку. Потым, разбіраючы ўсякі хлам, я нават хацела яго выкінуць, але чамусьці сама сябе спыніла: «Аз чаго гэта я ўсё выкідаю? Людзі ж неяк рамантуюць паламаныя рэчы...»

Зайшла ў Дом быту, паказала гадзіннік.

На мяне там паглядзелі, як на дурніцу: «Мы не дапаможам».

– Што, аднаразовы?

– Жанчына, гэта ваш гадзіннік?

– Мой...

– А вы на яго глядзелі?

–???

– Ну, літаркі не спрабавалі чытаць?

– Не, — разгубілася я. — Гэта падарунак.

І я, напэўна, упершыню паглядзела на гэты гадзіннік не як на стрэлкі, якія паказваюць час, а як на гадзіннік.

– Jean Perret, — пацвердзіў гадзіншчык. — Нумарны. З сапфірамі. Вам не да нас, вам у краму швейцарскіх гадзіннікаў трэба. Батарэйку памяняюць.

Я была ў шоку. Я ніколі і нікога не разводжу на дарагія падарункі. А тут нават толкам не падзякавала чалавеку.

Дакладней, потым ужо падзякавала, але моцна падазраю, што ён нават не вельмі зразумеў, за што.

Ён патэлефанаваў, калі стала вядома, што ў Мінску на акцыі пратэсту пасля прэзідэнцкіх выбараў затрымалі расейцаў. І дзяўчына сярод іх была. Ён прасіў у першую чаргу паклапаціцца менавіта пра дзяўчыну — перадаць на Акрэсціна ваду, рэчы.

– Ды ў нас ужо на канвеер такія перадачы пастаўленыя — усім перадаюць, не толькі сваякам і знаёмым. Не хвалюйся.

– Не, ты прасачы. А то вашы там дураць, лічачы, што ўсе рускія — мудакі...

У гэтым быў увесь Нямцоў. Свой і сярод алігархаў, і сярод піянераў-рэвалюцыянераў. Які ўмее выпіць гарэлкі са страйкоўцамі-шахцёрамі і калекцыйнае віно на каралеўскім прыёме. Здольны рабіць дарагія падарункі без нагоды і патрэбы і забываць пра гэта. Думаць пра тых, каго нават не ведае.

Чалавек са стрыжнем, з паняццямі пра дабро і зло. Вялікі аптыміст і адчайны фаталіст, напэўна...

Сёння зло перамагло.

Барыса няма.

Гадзіннік ідзе.

**Паводле nv-online.info**

# Надзея Саўчанка галадае 80 дзён

Яна **патрабуе вызвалення** з расійскай турмы.

На 75-ы дзень галадоўкі Надзея сказала, што да наступнага пасяджэння суда можа не дажыць. Пра гэта яна заявіла Маскоўскаму гарадскому суду, які разглядае яе апеляцыю на працяг арышту да 13 мая 2015 года.

Саўчанку ў залу судовага пасяджэння не даставілі, яна кантактуе на ўкраінскай мове праз перакладчыка з дапамогай відэасувязі.

Надзея заўсёды адзявае футболку з украінскім гербам.

Ёй удалося перадаць на волю ліст, у якім яна звяртаецца да ўсіх неабыякавых да яе лёсу.

«Людзям:

Невымоўна ўдзячная Вам за ўсё ... За ўсю падтрымку і заўзятую барацьбу, якую вы за мяне вядзеце! Я і ў самых смелых думках не магла на такую падтрымку разлічваць! Я таксама змагаюся! І не здаюся! І не зламаюся! Таму што змагаюся не толькі за сябе, а супраць сістэмы, якая калечыць і забівае толькі тых, хто яе баіцца, і пасуе перад тымі, хто не баіцца! Я не баюся!

Нас тут шмат украінцаў у расійскіх турмах. Трэба вызваліць першага, каб потым лягчэй было змагацца за кожнага! Украінцы ўжо паказалі свету прыклад Рэвалюцыі Годнасці і як змагацца з злачыннай уладай, якая зажралася. А зараз мне і ўсёй Украіне даводзіцца змагацца яшчэ і з бясчыннай уладай суседа!...

Ад усяго сэрца дзякую!»

2 сакавіка Пятро Парашэнка ўганараваў Надзею Саўчанку званнем Героя Украіны. «Я вельмі спадзяюся, што ў мяне будзе магчымасць асабіста ўручыць вам «Залатую Зорку Героя Украіны», — сказаў ён.

У Расіі Саўчанку вінавацяць у забойстве расійскіх журналістаў у «ЛНР». Лётчыца Надзея Саўчанка трапіла ў палон да баевікоў на Луганшчыне, калі пасля бою выводзіла параненых. Тэрарысты кіраўніка «Луганскай Рэспублікі» Платніцкага вывезлі Саўчанку ў Расію. Сусветная супольнасць лічыць украінскую лётчыцу палітвязнем.

У падтрымку Саўчанкі выступала беларуская пісьменніца Святлана Алексіевіч.

**ЗП**


На судзе Саўчанка адзявае футболку з гербам Украіны.

# Ханс-Георг Вік: «Лукашэнка ведае, што рабіць»

«Наша Ніва» пагутарыла пра **расійска-ўкраінскі канфлікт** і ролю Мінска ў яго вырашэнні з вядомым нямецкім дзяржаўным дзеячам і дыпламатам Хансам-Георгам Вікам, які ў 1985—1990 гадах ўзначальваў БНД — Федэральную выведвальную службу Германіі.



**«НН»: Нядаўна ў Крамлі казалі аб пераглядзе законнасці далучэння ГДР да ФРГ. Як гэта ўспрынялі немцы?**

**Ханс-Георг Вік:** Гэтыя словы былі прынятыя са здзіўленнем і недаверам. Насамрэч, ніхто не прымаў заяву ўсур'ёз, як і многія іншыя спробы Масквы перапісаць гісторыю. Як можа хтосьці з Крамля паставіць пад сумнеў падзею, якая стала вынікам міжнародных і ўнутраных перамоваў, без адзінага стрэлу, і была ўхвалена на тэрыторыі Германіі, Еўропы і ў іншых краінах свету. Савецкі Саюз таксама быў важнай часткай гэтых перамоваў, якія, дарэчы, паклалі канец халоднай вайне. Савецкі Саюз замацаваў вынікі перамоваў подпісам. Няўжо Крэмль хоча адклікаць гэты подпіс, пастаўлены ў 1990 годзе?

**«НН»: Нядаўна паведамлялася, што Расія плануе выдаткаваць 25% свайго бюджэту на армію. Што вы думаеце пра гэта?**

**ХГВ:** Шмат год таму Пуцін адмовіўся ад мадэрнізацыі расійскай эканомікі і ўкаранення тэхналагічных інавацый разам еўрапейскімі партнёрамі. Замест гэтага ён зрабіў стаўку на перазапуск абароннай прамысловасці савецкага ўзору ў сучаснай Расіі. Пуцін адкрыта кажа пра маштабную праграму пераўзбраення, якая мусіць заняць не адзін год. Па меркаванні Пуціна, прыярытэтнай мэтай Расіі ёсць стварэнне вайсковых сілаў, здольных выконваць заданні ў любых умовах.

**«НН»: На вашу думку, ці магчымы поўнамаштабны ваенны канфлікт паміж Захадам і Расіяй?**

**ХГВ:** Я чакаю новую «жалезную заслону», якая будзе раздзяляць дзве «Еўропы», утрымліваць Расію ад экспансіі супраць краін—былых членаў СССР і абараніць краіны—члены НАТА і ЕС ад адкрытай канфрантацыі з Расіяй.

**«НН»: Як вы ацэньваеце ролю Мінска ва ўрэгуляванні ўкраінскага канфлікту?**

**ХГВ:** Беларусь стаіць перад дылемай: з аднаго боку, яна залежыць ад добрых эканамічных і фінансавых стасункаў з Расіяй. З іншага боку, у Мінска няма ілюзій наконт доўгатэрміновых планаў Масквы ў дачыненні самастойнасці Беларусі і іншых былых дзяржаў СССР. А паляпшэнне адносінаў з Захадам — напрыклад, вызваленне ўсіх палітычных вязняў — нарадзіла б новую заклапочанасць аб намерах Мінска ў вачах Расіі.

Улічваючы небяспечнае становішча Беларусі як суседняй з Расіяй дзяржавы, адзінае лагічна правільнае палітычнае выйсце для Лукашэнкі — праяўляць ініцыятыву, якая падыме прэстыж краіны і яго ўласны ў вачах міжнароднай супольнасці. Лукашэнка крытычна ставіцца да любога магчымага ўварвання Расіі на тэрыторыю краін былога СССР. І ён дакладна транслюе гэту пазіцыю і Расіі, і народу сваёй дзяржавы. Ён выдатна разумее, што народы і ўрады большасці постсавецкіх дзяржаў заклапочаны магчымасцю гібрыднай вайны з боку Расіі ці іншага ўмяшальніцтва ці ціску з прамым ці непрамым выкарыстаннем сілы.

**«НН»: Як вы думаеце, ці зможа Беларусь захаваць нейтралітэт у расійска-ўкраінскім канфлікце?**

**ХГВ:** Я спадзяюся, што Беларусь здолее шчыльна супрацоўнічаць з Украінай і гарантаваць сваю незалежнасць. На жаль, Беларусь упусціла больш за адну магчымасць мадэрнізаваць сваю індустрыю і атрымаць доступ да еўрапейскіх рынкаў.

**«НН»: Дык, можа, прыйшоў час зняць санкцыі з Лукашэнкі?**

**ХГВ:** А ці ёсць у Лукашэнкі зацікаўленасць у паляпшэнні адносін з ЕС? Калі ёсць, ён ведае, што рабіць.

**«НН»: Апошняе пытанне не пра палітыку: ці не падзеліцеся, чым займаецеся цяпер?**

**ХГВ:** Я з'яўляюся чалавекам акадэмічнай супольнасці і ладжу семінары ў нямецкіх універсітэтах, у асноўным на тэму трансфармацыі ва Усходняй Еўропе — гістарычным і культурным суседзе Германіі. Гэтыя семінары наведваюць і ўсходнееўрапейскія студэнты. Еўрапейскія нацыі прайшлі доўгі шлях ад катастрофы 1940-х да новых магчымасцяў і разам з тым выклікаў цяперашняга часу. Нельга заставацца ўбаку.

**Гутарыў Кірыла Хілько**

# Палітвязень Дзядок яшчэ на год застаецца ў турме

**За тыдзень** да вызвалення атрымаў новы «падарунак».

26 лютага суд Ленінскага раёна Магілёва дадаў да тэрміну Дзядка яшчэ год і тры дні пазбаўлення волі. Суддзя Ігар Шведаў прызнаў Дзядка вінаватым у «злосным непадпарадкаванні патрабаванням адміністрацыі выпраўленчай установы» — усяго набралася 16 парушэнняў. Сярод іх, напрыклад, нашэнне спартыўных штаноў замест турэмнай робы.

На волі ў Мікалая Дзядка засталася жонка Валерыя Хоціна. Валерыя працуе перакладчыцай.

«Улады перастрахоўваюцца, яны пакідаюць сабе разменную манету. Бо цяпер у Беларусі засталіся тры прызнаныя міжнароднай супольнасцю палітвязні: Статкевіч, Аліневіч і Дзядок».



### Утульней у «адзіночцы»

У Магілёўскай турме апошнія тры месяцы Мікалай Дзядок сядзіць у адзіночанай камеры. Вікторыя сцвярджае, што там ён пачуваецца лепей: «Сам ён кажа, што стаміўся сядзець з людзьмі і ў «адзіночцы» яму нашмат лепш. Там ён сам сабе гаспадар: хочаш — адчыніш акно, хочаш — паспі. Да таго ж Мікалай не курыць, а ў агульнай камеры хтосьці ўвесь час дыміць. Вядома, часам хочацца пагутарыць з людзьмі. Але ў цэлым ён трымаецца добра — я бачыла гэта і на судзе, і падчас спаткання».

### Быў бы чалавек — парушэнні знойдуцца

«З пункту гледжання законнасці матываваць можна ўсялякае парушэнне, — разважае Вікторыя наконт справы свайго мужа. — У турме ёсць строгія прадпісанні, і зняволеныя мусяць іх выконваць. Могуць пагрукацца ў дзверы і сказаць: «Так, Дзядок, што ў нас па распарадку? Вольны час? А ты чаму сядзіш чытаеш? Давай займайся спортам». Аднак сам Мікалай казаў, што парушаюць турэмны статут усе. Нармальна не спаць пасля адбою, нармальна перагаворвацца паміж камерамі. Ён на судзе сам прызнаў 14 з 16 пунктаў абвінавачвання. Але мэтанакіравана за дробныя парушэнні пасадзілі толькі яго. І цяпер Мікалай пастаянна знаходзіцца пад ціскам магчымага паўтарэння».

### «Не хацеў бы быць на вашым месцы»

Суд над Дзядком праходзіў у турме, аднак кожны і бацькy Мікалая пусцілі. Валерыя тэзісна пераказвае апошняе слова Мікалая. Той сказаў, што 411-ы артыкул Крымінальнага кодэкса, па якім яго судзяць, сам сабою недарэчны: за ўсе парушэнні ён быў пакараны штрафным ізалятарам.

«Усім прысутным тут прадстаўнікам карных органаў хачу нагадаць, што любая сістэма, заснаваная на хлусні, гвалце і ціску, калісьці абрынецца і пахавае пад сабой усіх, хто яе падтрымліваў. І калі гэта здарыцца, не хацелася б мне быць на вашым месцы», — апошнюю фразу Мікалая Валерыя запомніла даслоўна.

**КХ**

**Мікалай Дзядок**

нарадзіўся ў Брагіне ў 1988. Ён скончыў Юрыдычны каледж БДУ, пасля паступіў у ЕГУ на спецыяльнасць «паліталогія і еўрапейскія даследаванні», дзе паспеў скончыць толькі адзін курс. Дзядок быў затрыманы 3 верасня 2010 года, напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў, разам з Ігарам Аліневічам, Аляксандрам Францкевічам. Ён праходзіў па «справе анархістаў», якая складалася з некалькіх эпізодаў нападаў на адміністратыўныя будынкі. Суддзя Заводскага раёна Мінска 27 мая 2011 года прысудзіла Дзядка да 4,5 года пазбаўлення волі за злоснае хуліганства.

# Мінінфарм вынесла рэгіянальным газетам папярэджанні за «РБ»

Папярэджанні атрымалі **«Газета Слонімская», «Ганцавіцкі час»** і баранавіцкі **Intex-press**.

Усе тры папярэджанні тычацца выходных дадзеных, паведамляе БАЖ. «Газету Слонімскую» абвінавачваюць у непазначэнні накладу газеты ў выходных дадзеных двух лютаўскіх нумароў. Але наклад быў пазначаны на першай старонцы, адзначае галоўны рэдактар газеты ВіктарВаладашчук. Гэта не супярэчыць закону, расказаў ён «НН», бо закон патрабуе пазначаць наклад проста «ў кожным выпуску».

«Ганцавіцкі час» атрымаў папярэджанне за пазначэнне ў выходных дадзеных дзяржоргана, што зарэгістраваў СМІ. Замест «Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь» было пазначана «Міністэрства інфармацыі РБ».

Гэта не адпавядае афіцыйным нормам, зацверджаным Мінінфармам, Саветам міністраў і ўказам прэзідэнта. Такім чынам рэдакцыя парушыла артыкул 22 закона «Аб СМІ».

«Безумоўна, мы будзем абскарджваць дадзенае папярэджанне, хаця б таму, што наша выданне ў той дзень, за які вынесенае папярэджанне, нават не выходзіла», — заявіў галоўны рэдактар «Ганцавіцкага часу» Пётр Гузаеўскі.

Таксама папярэджанне за «РБ» атрымаў Intex-press. Як адзначыў галоўны рэдактар выдання Уладзімір Янукевіч, аналагічнае парушэнне можна заўважыць і ў дзяржаўных выданнях, але пра папярэджанні дзяржвыданням за «РБ» не чуваць.

«Апошні год дакладна ішло ў нас «РБ», — прыгадвае Янукевіч. — Я не думаю, што проста так заўважылі. Думаю, адбываецца нейкі маніторынг, вырашылі даць зразумець незалежным СМІ, што ўсе мы «пад богам ходзім». Вядома, пад якім. Што ў любым выпадку можна прыцісн уць, што трэба быць абачлівымі ў электаральны год».

**Аляксандр Арсёнаў**

# Мінсувязі атрымала магчымасць збудаваць Вялікі беларускі фаервол

Пастанова Аператыўна-аналітычнага цэнтра дазваляе блакаваць забароненыя сайты і любыя сродкі доступу да іх.

Пастанова ААЦ ад 19 лютага ўступіла ў сілу 25 лютага. Яна апісвае механізмы блакавання забароненых у Беларусі сайтаў. Сярод такіх тыя, што ўтрымліваюць забароненую да распаўсюду інфармацыю (напрыклад, пра незаконны абарот наркотыкаў), а таксама тыя, што атрымалі два і больш пісьмовыя папярэджанні Мінінфарма і не выканалі патрабаванняў па ліквідацыі парушэнняў заканадаўства пра СМІ.

Фармаваць «чорны спіс» будзе Дзяржінспекцыя па электрасувязі паводле рашэнняў Мінінфармацыі. Прапанаваць унесці сайт у чорны спіс цяпер могуць не толькі дзяржорганы, але і любы грамадзянін.

Акрамя саміх сайтаў, заблакаваць доступ паводле пастановы можна і да сродкаў доступу да іх — ананімайзераў, вэб-проксі і ананімных сетак накшталт Tor. На момант публікацыі гэтыя сродкі ў Беларусі функцыянуюць, але могуць быць заблакаваны «пры выяўленні».

Беларускія эксперты папярэджваюць: пастанова можа выкарыстоўвацца супраць незалежных СМІ ў інтэрнэце.

На думку заснавальніка TUT.BY Юрыя Зісера, сама пастанова ўносіць мала навага — сайты незалежных СМІ блакаваліся і раней, «кожны раз, як у краіне нешта важнае адбываецца». Зісер папярэджвае: «Праблема можа паўстаць толькі тады, калі хтосьці вырашыць пагуляцца гэтымі магчымасцямі». Ён згадвае пратэсты ў Егіпце ў 2011 годзе, калі адключэнне сувязі і інтэрнэту вывела на вуліцы толькі больш людзей.

**АА**

# Іпэшнікі атрымалі чарговую адтэрміноўку

Тавар можна па-ранейшаму прадаваць без сертыфікатаў, але трэба плаціць **большы падатак**.

Прадпрымальнікі ў чарговы раз атрымалі адтэрміноўку на распродаж рэшты тавару.

Меркавалася, што 1 сакавіка скончаўся «пераходны перыяд», пасля якога продаж тавару без суправаджальных дакументаў (сертыфікатаў якасці), накладных, рахункаў-фактур забараняўся. Гэта вынікала з указа Аляксандра Лукашэнкі, які ўступіў у сілу яшчэ 1 ліпеня 2014 года. Прадпрымальнікі ўсяляк супраціўляліся, пагражаючы забастоўкамі і даводзячы, што



Па стане на раніцу 3 студзеня большасць прадаўцоў у ГЦ «Паркінг» у Мінску ўсё яшчэ не працавалі.

Сяргей Гудзілін

пры гульні па новых правілах працаваць не могуць. Маўляў, на расійскіх рынках, дзе закупляюцца іпэшнікі, суправаджальных дакументаў не выдаюць.

За дзень да прызначанай даты ўрад адступіў. Чыноўнікі заклікалі прадпрымальнікаў працягваць працу, паабяцаўшы не выносіць штрафы за фармальнае парушэнне новых правілаў.

Тым не менш 1 сакавіка каля 80% прадпрымальнікаў на ўсялякі выпадак не выйшлі на працу. Аднак нервовасць сышла. З кожным днём колькасць адкрытых кропак павялічваецца.

Тым часам рыхтуецца новы кампрамісны ўказ Аляксандра Лукашэнкі. Міністэрства па падатках і зборах праанансавала асноўныя яго палажэнні.

Іпэшнікам, якія плацяць адзіны падатак, дазволяць-такі прадаваць тавары без суправаджальных дакументаў. Але за гэта запатрабуюць сплачваць падвойны падатак, а таксама павялічаны ПДВ.

Абавязковая сертыфікацыя задумвалася як клопат аб якасці тавараў. Цяпер жа дзяржава пагадзілася адмовіцца ад ранейшых патрабаванняў у абмен на грошы.

**Ягор Марціновіч**

### Прадпрымальніка Алеся Макаева аштрафавалі на 9 мільёнаў

Суд Цэнтральнага раёна Мінска прызнаў сталічнага прадпрымальніка вінаватым у парушэнні парадку арганізацыі або правядзення масавых мерапрыемстваў. Суд убачыў парушэнне ў тым, што 1 сакавіка Макаеў удзельнічаў у сходзе прадпрымальнікаў рынку ў Ждановічах, якія раіліся, што ім рабіць у новых умовах.

### Апытанне на nn.by

**Вы за тое, каб прадпрымальнікі прадавалі толькі сертыфікаваны тавар?**

| | | |
|---|---|---|
| За | 188 | 34% |
| Супраць | 218 | 39% |
| Хай прадаюць любы тавар, але большыя падаткі плацяць | 96 | 17% |
| Я не разбіраюся | 56 | 10% |

Прагаласавала 558 чалавек

### Заробкі ў Беларусі — $400, у Расіі — да $480

Абедзве краіны ў дзясятцы **самых нізкааплатных** у Еўропе.

Паводле статыстычных падлікаў, сярэдні заробак у Беларусі ў студзені 2015 года склаў 6,02 мільёна рублёў (гэта каля $400). Лічба апусцілася ў параўнанні з «прэміяльным» снежнем на 11,5%. На рукі «чыстымі» работнікі атрымлівалі каля $350. Даходы апусціліся на ўзровень пачатку 2012 года. Меншыя заробкі толькі ва Украіне і Малдове.

У Расіі сітуацыя таксама істотна пагоршылася, у параўнанні са снежнем даходы паменшыліся на чвэрць. Заробак «чыстымі» склаў $478, бруднымі — $416. Расія апусцілася ў дзясятку самых нізкааплатных краін Еўропы.

**ЯМ**

## На лідскай «Лакафарбе» скарацілі цэх і ўвялі чатырохдзёнку

У інтэрнэце з'явіліся чуткі пра скарачэнні на лідскім прадпрыемстве «Лакафарба». Высветлілася, што адно з падраздзяленняў сапраўды было ліквідавана.

Да таго ж прадпрыемства працуе толькі чатыры дні на тыдзень. Кіраўніцтва тлумачыць гэта наступным чынам.

«Наша прадпрыемства сезоннае, таму пакуль што мы перайшлі на чатырохдзённы графік працы. З сакавіка мы плануем павялічваць адгрузкі і, можа быць, вернем пяцідзёнку. Гэтае пытанне разглядаецца штотыдзень, — паведаміла намесніца дырэктара па кадрах і ідэалагічнай працы Людміла Бірыч. — Мы экспартаарыентаванае прадпрыемства. Паўплывала сітуацыя на расійскім рынку. Зімой наша прадукцыя не надта запатрабаваная».

Таксама пад скарачэнні трапіла 25 чалавек — супрацоўнікі рамонтна-будаўнічага ўчастка.

«Аб'ёмаў працы для гэтых супрацоўнікаў практычна не было, таму гэтае падраздзяленне было скасавана. Яно няпрофільнае для нас, эканамічна мэтазгодна сёння замаўляць такую працу ў прафесіяналаў, чым трымаць сваё падраздзяленне, — тлумачыць Бірыч. — Мы прапанавалі людзям перайсці працаваць у мясцовае будаўніча-мантажнае ўпраўленне, але яны не захацелі, палічылі за лепшае атрымаць кампенсацыі, якія складаюць трохмесячны заробак. Гэта іх справа. Грошы мы выплацілі, праблем няма».

Усяго на «Лакафарбе» працуе 1,5 тысячы чалавек. На колькі паменшыўся заробак у сувязі з чатырохдзёнкай, Бірыч казаць адмовілася. Аднак, кажа яна, сітуацыя не такая страшная, як малююць некаторыя сайты.

«Людзі трымаюцца за сваю працу. Такога няма, каб яны беглі з прадпрыемства. Тым больш мы плацім рэгулярна», — падкрэслівае Людміла Бірыч.

**Улад Швядовіч**



## Беларуская кампанія атрымала кантракт на будоўлі стагоддзя ў Дубаі

Група кампаній Glassbel, уласнікамі якой з'яўляюцца Дзмітрый і Ларыса Сабалеўскія, займела кантракт на шкленне аднаго з самых грандыёзных будаўнічых праектаў сучаснасці — комплексу Opera House у Дубаі.

Glassbel трэба будзе ашкліць каля 10 000 м². Для гэтага будуць выкарыстаныя двухкамерныя шклопакеты з антыблікавым пакрыццём.

Opera House — гэта частка забудовы раёна The Opera District у адным з самых багатых эміратаў ААЭ. Будынак мае 66 паверхаў і больш за 200 шыкоўных апартаментаў. Ён зможа прымаць 2000 чалавек. Тут будуць праходзіць оперныя і тэатральныя пастаноўкі, розныя канцэрты, мастацкія выставы, паказы фільмаў і іншыя забаўляльныя мерапрыемствы.

**Ej.by**





### Фотафакт

«Газпром» вызначыўся, як будзе выглядаць офіс беларускай даччынай кампаніі на скрыжаванні вуліцы Філімонава і праспекта Незалежнасці ў Мінску. Пошук падрадчыка працягваецца. Будоўля мае скончыцца ў 2018 годзе і будзе каштаваць $500 мільёнаў.

Плануецца пабудаваць офісныя будынкі, пяцізоркавы гатэль Radisson Blu, медцэнтр, спартыўны цэнтр, а таксама 182-метровы хмарачос.

### Сцісла

**Біл Гейтс зноў самы багаты ў свеце**

У рэйтынгу часопіса «Форбс» сузаснавальнік «Майкрасофт» застаўся на першым месцы. Ягонае багацце ацэньваецца ў $79,3 мільярда. Наступныя за ім мексіканскі тэлекамунікацыйны магнат Карлас Слім ($77,1 мільярда) і інвестар Уорэн Бафет ($72,7 мільярда). Агулам «Форбс» налічыў 1826 мільярдэраў, беларусаў сярод іх няма.

**«Белтрансгаз» — найбуйнейшы падаткаплацельшчык краіны**

Па выніках 2014 года кампанія «Газпрам трансгаз Беларусь» узначаліла спіс падаткаплацельшчыкаў краіны. Газавікі забяспечылі 4,9% даходаў бюджэту. На другім месцы — «Беларуськалій» (3,8%), на трэцім — «Нафтан» і Мазырскі НПЗ (па 3,5%). Сярод беларускіх прыватнікаў найбольшы ўнёсак у бюджэт зрабіў «Тытунь-Інвест» мільянера Паўла Тапузідзіса.

**Азербайджанскі манат абясцэніўся на трэціну**

Водгулле вялікай дэвальвацыі расійскага рубля і ўкраінскай грыўні дайшло да перыферыі былога СССР. Раней новы ўрад Малдовы апусціў курс лея прыкладна на 25%.

**ЯМ**

# Беларус з батальёна «Правага сектара»: Калі хтосьці марыць пра ўзброеную барацьбу ў Беларусі, то ў яго праблемы з галавой

21-гадовы Ян амаль год ваюе ва Украіне. У Мінску ён быў грамадскім актывістам, а таксама фанатам футбольнага клуба «Партызан». Мы адшукалі байца ў Кіеве, куды ён прыехаў на кароткачасовы адпачынак з Пяскоў.



**«Наша Ніва»: Яне, раскажы крыху пра сябе.**

**Ян:** Я з Мінска, мне 21 год. Я прыехаў на Майдан яшчэ тады, калі адбылося забойства Міхаіла Жызнеўскага. Цяпер я змагаюся ў батальёне «Дук» «Правага сектару».

**«НН»: Чаму ты паехаў ва Украіну?**

**Я:** Бо я хацеў заспець той час, калі Украіна пачала скідаць кайданы Крамля. У сакавіку планаваў вярнуцца дахаты, але ў той час у Крыме з'явіліся барадатыя чачэнскія «самаабаронцы». Я зразумеў, да чаго гэта ўсё ідзе. Я быў у «Правым сектары» на Майдане. Гэта была адзіная сіла, якая аказвала супраціў, якая не грала ні пад чыю дудку. Яны не маюць зацікаўленасці ў грошах ці партфелях.

**«НН»: Наколькі я ведаю, то ты антыфашыст, «лявак», а тут трапляеш у батальён «Правага сектару».**

**Я:** Калі я пажыў ва Украіне, то спакайней стаўлюся да ўсялякіх ярлыкоў — левыя, правыя, цэнтральныя, антыфашысты, фашысты. Я — нацыяналіст. Для мяне нацыяналізм — гэта права быць роўнымі сярод роўных на гэтай зямлі. Для мяне Еўропа — гэта адна вёска. Беларусь — гэта адна хата, Украіна — іншая. Калі ў суседа бяда, то нельга быць абыякавым. Сёння на ўсходзе Украіны вырашаецца геапалітычны лёс усёй Еўропы. Праблема суседа — наша праблема.

**«НН»: У цябе на форме бел-чырвона-белы сцяг. Табе важна ваяваць пад ім?**

**Я:** Канечне, гэткім чынам я паказваў, што ў Беларусі далёка не ўсе ватнікі. Ёсць у батальёне яшчэ некалькі беларусаў, я не скажу, што іх шмат. Мы не ехалі групай, кожны прыехаў сам. У кожнага свой шлях у батальён.

**«НН»: Калі ты трапіў непасрэдна ў баявыя дзеянні?**

**Я:** У жніўні. У Аўдзееўцы. Пасля вызвалення горада дапамагалі мірнаму насельніцтву, трымалі там блокпост з боку Спартака, які належаў сепаратыстам. Аўтаматны бой непасрэдна я ўжо бачыў у Пясках, гэта тры кіламетры да данецкага аэрапорта. Выходзілі разведачна-дыверсійныя групы ад іх, нават былі спробы штурму. Мы трымаем абарону з кулямётамі, якія нам выкапалі валанцёры Закарпацця, часоў Другой сусветнай вайны. Ёсць мінамёты 1943 года. Любая сусветная дзяржава проста смяялася б з нашага ўзбраення. Прыязджалі амерыканскія спецыялісты, яны дзівіліся, як хлопцы, якія ніколі не служылі ў арміі, здольныя самі разбіраць і збіраць за два дні зенітную ўстаноўку.

**«НН»: У цябе таксама хутка атрымліваецца вучыцца?**

**Я:** Калі казаць пра аўтаматы, то я меў з імі справу яшчэ ў Беларусі. Быў такі патрыятычны лагер «Доблесць» для цяжкіх падлеткаў на базе вайсковай часткі 3214. Нават сам Паўлючэнка выступаў перад намі. Я, праўда, тады не ведаў, хто гэта такі.



Беларусы ў батальёне «Правага сектара».

**«НН»: Як бацькі ставяцца да твайго выбару?**

**Я:** Маці тэлефануе час ад часу. Хвалюецца, канечне. Кажа, каб ехаў дамоў. Але ж яна разумее, што вяртацца ўжо немагчыма. Спецслужбы прыходзілі да мяне дадому, яны ведаюць, хто я такі, што раблю ва Украіне. Я і не збіраюся хавацца. Я не злачынца. Я не ваюю за грошы. Цяпер хачу атрымаць грамадзянства Украіны, каб у Беларусі ў мяне не было праблем.

**«НН»: Якія твае абавязкі ў батальёне?**

**Я:** Падчас аперацый я кулямётчык. У мяне РПК, то бок ручны кулямёт Калашнікава. Я другі нумар кулямётчыкаў, прыкрываю камандзіра. Я страляў і з РПГ, і мінамёта. Людзі мяняюцца, бо часта не хапае кадраў.

**«НН»: Страх адчуваеш?**

**Я:** Канечне, калі ты яго не адчуваеш, то ты ці дурны, ці мёртвы. Я ўвесь час канцэнтруюся на камандах камандзіра і сваім перыметры, які я мушу прыкрываць. Увесь час ваюе толькі артылерыя. Вельмі рэдка бываюць аўтаматныя ці танкавыя баі. На баку баевікоў працуюць расійскія спецыялісты, рэгулярная расійская армія.

**«НН»: Ва ўкраінцаў ёсць шанец спыніць баевікоў?**

**Я:** Калі б не было, то мяне б не было ў батальёне. Ва Украіне ёсць людзі, ёсць зброя, якой хапае, каб спыніць баевікоў. Толькі вось часам узнікае пытанне: чаму гэта не робіцца?..

**«НН»: Ты сябе бачыш у будучыні вайскоўцам?**

**Я:** Не-не-не. У мяне нехта быў спытаўся, а калі мы тут скончым, то паедзем у Беларусь, Бацьку скідваць? Я кажу: пасля таго, што я пеpажыў тут, малю Бога, каб больш ніколі не ўзяць у рукі зброю. Калі я жыў у Беларусі, то захапляўся ЭТА і ІРА, якія вялі ўзброены супраціў, я думаў, што так трэба дзейнічаць і ў Беларусі. Цяпер жа лічу, што людзі, у якіх падобныя думкі, маюць ці псіхалагічныя праблемы, ці ў розуме. Самае горшае для Беларусі будзе тое, калі там адбудзецца такая ж рэвалюцыя, як ва Украіне, з такой колькасцю ахвяр. Мне здаецца, што Расія паспрабуе скінуць Лукашэнку, бо цяпер ён ім нявыгадны, бо працуе не ў інтарэсах Крамля.

**«НН»: Пра што цяпер марыш?**

**Я:** Мне проста хочацца, каб гэта хутчэй скончылася. А Украіна была свабоднай і незалежнай дзяржавай, прыкладам іншым народам.

**Гутарыў Зміцер Панкавец**

# Былы палітвязень Васіль Парфянкоў ваюе ва ўкраінскім батальёне АУН

«Дапамагаю, чым магу».

5 снежня 2014 года грамадскі актывіст Васіль Парфянкоў выйшаў з горацкай турмы. Амаль адразу пасля гэтага хлопец разам з сям'ёй — жонкай і сынам — з'ехаў на Украіну. Як высветлілася, Васіль запісаўся ў добраахвотны батальён Арганізацыі ўкраінскіх нацыяналістаў.

«Беларусы былі заўсёды блізкія з Украінай. Гэта наш брацкі народ, таму я і вырашыў паехаць сюды, — кажа Васіль. — Стараюся дапамагаць, чым магу. Я праходжу службу ў батальёне АУН, у Пясках пад Данецкам. Адбыў першую ратацыю — ад 14 студзеня да 14 лютага. На днях паеду назад.

Спачатку я хацеў ехаць на вайну ў складзе «Правага сектара», але там пачалася нейкая папяровая валакіта. А ў батальён АУН я проста запісаўся, мяне адправілі ў вучэбку. Два тыдні я прабыў на гэтым вышкале, а пасля — на фронт.




Не сказаў бы, што трапіў у самае пекла, але страляюць многа. Страляе артылерыя, «Грады». Непасрэднага візуальнага кантакту з праціўнікам няма. Яны працуюць здалёк артылерыяй.

У Пясках знаходзіцца батальён «Правага сектара», АУН і частка 9-яй брыгады рэгулярнай украінскай арміі. У брыгады ёсць артылерыя, танкі. А ў нас аўтаматы, кулямёты, РПГ.

Я — шараговы баец. Стралок. У мяне аўтамат.

Калі ва Украіне была яшчэ Аранжавая рэвалюцыя, то я ўступіў ва УНА-УНСО, трапляў да іх на трэніроўкі, таму зброю ў руках трымаць умею.

Я адзіны беларус у батальёне АУН. Але я ведаю, што ў «Правым сектары» ў Пясках ёсць беларусы. Ды ўвогуле, ва ўсіх добраахвотных батальёнах ёсць беларусы. Прычым не адзін і не два.

Страх з часам прытупляецца. Гэта першы тыдзень-два страшна, калі побач пачынае працаваць «Град»... Страшна, рэальна страшна. А потым усё менш звяртаеш на гэта ўвагу. Проста на аўтамаце шукаеш укрыццё, каб адседзець гэтыя залпы. Тут хутка вучышся. Галоўнае — чуць, дзе ляціць, і ты будзеш ведаць, куды снарад прызямліцца. Усе дамы ў Пясках разбітыя, але засталіся падвалы, добрыя, крэпкія, іх не прабівае «Град».

Пакуль што не збіраюся вяртацца ў Беларусь. Артыкул за наёмніцтва ў нас ніхто не адмяняў. А я тут не хаваўся асабліва. Пакуль нешта не пачне мяняцца ў нашай краіне, то вярнуцца не ўдаецца.

У батальёне ў мяне пазыўны Сябра.

Што тычыцца ежы і рэчаў, то ў нас усяго хапае. Моцная падтрымка ад валанцёраў. Прывозяць цёплыя рэчы, хатнюю ежу, цеплавізары, прыцэлы начнога бачання. Усё ёсць у нас.

У добраахвотніцкіх батальёнах заробак не плацяць. Толькі ў «Айдары» і «Данбасе», якія падпарадкоўваюцца Міністэрству ўнутраных спраў і абароны, то ім налічваюцца заробкі ад міністэрстваў.

Грамадзянства мяняць не збіраюся. Я быў, ёсць і буду беларусам. Але падалі дакументы на права жыхарства ва Украіне.

Літаральна днямі званіў хлопцам у батальён. Кажуць, што крыюць «Градамі» трэцюю ноч запар, не ўдаецца выйсці нават вады набраць з калодзежа — пастаянныя абстрэлы. А ўкраінскія войскі выконваюць перамір'е. Практычна не страляюць з цяжкага ўзбраення».

Парфянкоў быў удзельнікам Плошчы-2010, асуджаны да 4 гадоў пазбаўлення волі, але ўжо ў жніўні 2011 быў памілаваны. Пазнейшае зняволенне Васіля Парфянкова было звязанае з парушэннем прэвентыўнага нагляду, які замацоўваўся за ім пасля вызвалення з турмы.

ЗП

# Паранены бурат: Нашу частку паслалі на штурм Дэбальцава за чатыры дні да мінскіх перамоваў

**Вайсковец расійскай арміі Доржы Батамункуеў 19 лютага з апёкамі трапіў у бальніцу Данецка — танк салдата, які ваяваў на баку сепаратыстаў на ўсходзе Украіны, быў падбіты падчас апошняга штурму горада, ужо ў перыяд перамір'я.**

Доржы 20 гадоў, ён апынуўся ва Украіне, праходзячы кантрактную службу ў расійскай арміі. Яшчэ ў кастрычніку 2014 ён трапіў з Улан-Удэ на вучэнні ў Растоўскую вобласць, а 8 лютага яго танкавую частку адправілі ў Данбас.

Бурацкі салдат расказаў журналістцы «Новой газеты» Алене Касцючэнка, чаму не стаў адмаўляцца ехаць ва Украіну, што думаў пра вайну ў Данбасе і як у данецкім шпіталі сустрэўся з Іосіфам Кабзонам — другі раз у жыцці.

У публікацыі «Новай газеты» прыведзеныя ўсе асабістыя дадзеныя Доржы Батамункуева, уключаючы нумар ваеннага білета і вайсковай часткі, да якой ён прыпісаны.

Доржы параніла пры баі ў Логвінаве — у гарлавіне так званага Дэбальцаўскага катла, калі расійскі танкавы батальён (як піша «Новая газета») адправілі ў бой з украінскімі ваеннымі, якія спрабавалі прарваць акружэнне.

Па словах вайскоўца, ён не сумняваўся, што пасля адпраўкі ў Растоўскую вобласць рана ці позна апынецца ва Украіне, і ставіўся да гэтага спакойна — Доржы лічыць,


Няшчасных буратаў кінулі на штурм Дэбальцава за 4 дні да Мінскага саміта.

што ваяваў за мір, за мірных грамадзян.

«Нам сказалі, што на вучэнні, але мы ведалі, куды едзем. Мы ўсе ведалі, куды едзем. Я ўжо быў настроены маральна і псіхічна, што прыйдзецца ехаць ва Украіну.

Мы танкі яшчэ ў Улан-Удэ зафарбавалі. Проста на вагонным складзе. Зафарбоўвалі нумары, у кагосьці на танках быў значок гвардыі — таксама. Нашыўкі, шэўроны — тут здымалі, калі на палігон прыехалі. Усё зняць ... у мэтах маскіроўкі. Пашпарт у вайсковай частцы пакінулі, ваенны білет на палігоне. А так у нас бывалыя ёсць хлопцы. Нехта ўжо год з лішнім на кантракце, нехта ўжо 20 гадоў.

Кажуць: не слухайце камандаванне, мы хахлоў бамбіць едзем. Вучэнні нават калі праўдуць, потым усё роўна адправяць хахлоў бамбіць.

Наогул шмат эшалонаў ехала. Усе ў нас у казарме начавалі. Перад намі хлопцы-спецназаўцы з Хабараўска былі, з розных гарадоў, чыста з усходу.

Адзін за адным, разумееце? Кожны дзень. Наш ішоў пятым, 25-га ці 27 кастрычніка.

— Калі вы даведаліся, што маршам ідзяце на Данецк?

— Калі даведаліся? Калі прачыталі, што Данецк. Гэта калі ў горад заязджалі... Там яшчэ надпіс — ДНР. О, мы ва Украіне!

Цёмна было, ноччу ехалі. Я з люка высунуўся горад паглядзець. Прыгожы горад, спадабаўся. Справа, злева — усё прыгожа. З правага боку гляджу — велізарны сабор пабудаваны. Вельмі прыгожа.

У Данецку мы ў прытулак заехалі, прыпаркаваліся. Нас павялі паесці гарачага ў кампус, потым размясцілі ў пакоі. Потым мы ўсе ў адным пакоі леглі, у аднаго з нашых быў тэлефон. Ну, тэлефоны ўсё роўна нехта з сабой узяў. Знайшлі радыё «Спутнік».

І якраз там была дыскусія, ці ёсць [расійскія] вайскоўцы тут на Украіне. І ўсе госці такія: «Не-не-не». Мы ротай ляжым такія: ну да. Ну а ў адкрытую хто скажа?

Я, вядома, не ганаруся гэтым, што зрабіў. Што знішчаў, забіваў. Тут, вядома, ганарыцца нельга. Але, з іншага боку, супакойваюся тым, што гэта ўсё дзеля міру.

...(Доўга маўчыць). Страшна. Баішся. Падсвядомасцю ты ўсё роўна разумееш, што там такі ж чалавек, як і ты, у такім жа танку. Ну, ці пяхота, або на любой тэхніцы. Ён усё роўна ... такі ж чалавек. З крыві і плоці. А з іншага боку, разумееш, што гэта вораг табе. Як гэтая сволач сядзіць, увесь трасецца, моліцца, каб яго не забілі. Пачынае прабачэння прасіць. Ды яшчэ Бог табе суддзя....

— Мелі зносіны з мірнымі?

— Не. Мірнае насельніцтва самі да нас падыходзілі шмат. Мы стараліся з імі надта не размаўляць. Камандаванне сказала: у кантакты не ўступаць.

Калі мы былі ў Макееўцы, яны наогул нам сказалі, што 70 працэнтаў мірнага насельніцтва тут — за укропаў, «так што вы будзьце напагатове, хлопцы».

— А вас не напружыла пра Макееўку? Што 70 працэнтаў мясцовых за Украіну, раптам праўда?

— Напружыла, вядома. Ужо ў думках чакаеш падвоху ад усіх. Раптам ён цябе... ну там прыносілі нам паесці. То чай, то што. Мы бралі, але не пілі. Раптам атрута...

* * *

Адпачынак Доржы не афармлялі, г.зн Батамункуеў знаходзіўся ва Украіне як дзейны расійскі вайсковец. Разам з ім за мяжу Расіі ў пачатку лютага было адпраўлена каля 300 чалавек, у асноўным бураты: «Рэчмяшок, аўтамат — і ў танк».

У шпіталі Данецка Батамункуеў сустрэўся з Іосіфам Кабзонам, які наведваў параненых. Відэазапіс іх сустрэчы атрымаў шырокую вядомасць, прычым салдат убачыў Кабзона ў другі раз у жыцці — у школьныя гады спявак прыязджаў у школу Батамункуева.

**Паводле «Новай газеты» (скарочана)**

# Беларускі кулінар пераехаў ва Украіну і падтрымлівае АТА з дапамогай каўбасы

**Андрэй Азараў — адзін з самых вядомых беларускіх кулінараў, аўтар праекта talerka.ru.**

У снежні ён нечакана пераехаў у Львоў, дзе распачаў вытворчасць каўбасаў. Частку прыбытку Азараў пералічвае на патрэбы Антытэрарыстычнай аперацыі на ўсходзе (АТА).

«Я ў снежні 2013 быў на Майдане, і мяне гэта вельмі ўзрушыла. Я ўбачыў, як гэтыя людзі ды іх настрой адрозніваюцца ад нас — беларусаў з апушчанымі долу вачыма», — расказвае Азараў.

«Калі пачалі расстрэльваць Майдан, я зразумеў, што гэта не проста так адбываецца, — кажа кулінар. — Потым Расія адабрала Крым, пачала вайну... І я зразумеў, што лепш я дапамагу гэтай краіне, буду плаціць тут падаткі — і гэтая новая краіна, якая мне падабаецца, будзе падымацца. Тут ёсць механізмы, калі чалавек можа ўплываць на тое, каб краіна змянялася ў лепшы бок».



Пераязджаць ён вырашыў у Львоў, тым больш што Андрэй даўно сябраваў з мясцовым кулінарным клубам. Зараз перавёз туды сваю кухню, дарабіў рамонт у кватэры. Хутка плануе забраць сям'ю.

«Львоў вельмі стары, прыгожы. Мінск — гэта такі ваенны горад са сталінскай архітэктурай. Горад больш для ваенных парадаў, для дзяржавы, чым для людзей. Да таго ж у Львове шмат турыстаў, а ў Мінск яшчэ трэба пастарацца, каб іх завабіць. Яны не пойдуць проста есці дранікі, якія ў беларускай сталіцы нават гатаваць не ўмеюць», — кажа Азараў.

У Львове ён пачаў рабіць беларускую «пальцам пханую» каўбасу. Тут яе няма.

Першыя партыі былі зусім невялікія, зараз аб'ёмы павялічваюцца. І частку грошай, што атрымлівае Азараў, ён пералічвае на патрэбы ўкраінскай арміі.

«Калі баявыя дзеянні нарэшце скончацца, я буду аддаваць, напрыклад, сіротам. Мне 45 гадоў, я чыста «тэхнічна» ўжо не вельмі добры салдат, — тлумачыць Андрэй. — Але, як чалавек з грамадзянскай пазіцыяй, я магу нешта зрабіць. І вось, я падтрымліваю краіну з дапамогай сваёй кулінарыі. Сваім прыкладам я дэманструю такую ініцыятыву, спадзяюся, людзі будуць падключацца да гэтага».

Увогуле, вайна не вельмі палохае Азарава.

«У Мінску заставацца больш страшна. Бо ў Беларусі ўжо ёсць дзве расійскія базы, а тут яшчэ няма ніводнай. А ў тых апалчэнцаў пупок лопне, каб дайсці да Львова», — кажа ён.

Азараў прызнае, што сёння ўкраінцам цяжка. Але, падкрэслівае ён, у іх ёсць шансы на будучыню.




«Пуцін не вечны. А Украіна застанецца. Таму трэба проста рабіць сваю справу, а што будзе — тое будзе, — кажа Азараў. — Ніхто тут не лічыць, што ўсход краіны трэба аддаць. Настрой такі, што тэрарыстаў трэба гнаць да самай мяжы. Гэта тэрыторыя Украіны, чаму яе аддаваць? Тым больш Пуцін разумее толькі сілу. Яму трэба даць па рагах, тады ён спыніцца».

**Гутарыў Улад Швядовіч**

# Сакрэтны дакумент: Пуцін планаваў пачаць расчляненне Украіны з Крыма і Харкава

Рэдакцыя расійскай «Новай газеты» апублікавала змест дакумента са сцэнаром Крамля па падзеях ва Украіне.

У прыватнасці, плануючы вайну ва Украіне, акружэнне Пуціна разлічвала пачаць расчляненне Украіны з Крыма і Харкаўскай вобласці, а не з Данецкай, маючы на ўвазе «цесныя дзелавыя і палітычныя сувязі мясцовай бізнэс-эліты, якую ўзначальвае Р. Ахметаў, з шэрагам прадстаўнікоў апазіцыйнага алігархічнага альянсу».

У яго падрыхтоўцы, як мяркуецца, мог браць удзел «праваслаўны бізнэсмен» Канстанцін Малафееў, дакумент быў прапанаваны Пуціну ў перыяд паміж 4 і 12 лютага 2014 года — да уцёкаў Януковіча.

Аўтары падкрэсліваюць, што «Расія ні ў якім разе не павінна абмяжоўваць сваю палітыку ва Украіне толькі спробамі ўплываць на кіеўскі палітычны расклад».

Сярод такіх абласцей, згодна з дакументам, няма Данецкай вобласці.

«У першую чаргу — з Рэспублікай Крым, Харкаўскай, Луганскай, Запарожскай, Мікалаеўскай, Днепрапятроўскай і ў меншай ступені — Херсонскай і Адэскай абласцямі. (З гэтага пераліку наўмысна — і досыць умоўна — выведзеныя Сумская вобласць і Данецкая вобласць. Першая — з прычыны вельмі высокага электаральнага ўплыву ў ёй партыі «Бацькаўшчына». Другая — з прычыны цесных дзелавых і палітычных сувязяў мясцовай бізнэс-эліты, якую ўзначальвае Р. Ахметаў, з шэрагам прадстаўнікоў апазіцыйнага алігархічнага альянсу, якія маюць тут свае маштабныя інтарэсы).

# Чалавек, які жыве ў зямлянцы: «Я на бутэльках маю больш, чым рабочыя на заводзе»

**47-гадовы Сяргей** жыве ў лесе недалёка ад Баранавіч.

«Хто там, міліцыя? — на стук адгукнуўся сонны голас. — Не? Зараз адчыню».

Праз шкло дзвярэй віднецца запаленая свечка, постаць гаспадара — ён падняўся з ложка і адмыкае драўляныя дзверы.

«Я так і думаў, што рана ці позна і журналісты прыедуць, — у паўзмроку кажа мужчына, — апошнім часам я стаў папулярным, «шпана» з ваколіц цэлыя паломніцтвы ладзіць, каб падзівіцца на мяне. І адкуль толькі яны ўсе ведаюць... Адчуваю, неўзабаве давядзецца пераязджаць».

«Мы вас не...»

«Вось на «вы» не трэба, давайце адразу дамовімся. Ненавіджу. Апошні раз мяне на «вы» на судзе называлі. Таму можна проста — Сяргей. Уладкоўвайцеся», — прапануе гаспадар.

### «Зямлянку два месяцы будаваў»

У пакоі Сяргея цёпла, а ў параўнанні з зімовым лесам нават спякотна — зямлянка добра абагравaецца буржуйкай, а яшчэ ў дадатак абабіта дыванамі. Частку пакоя займаюць кастрык дроваў і стол, на якім стаіць талерка, свечка і стары радыёпрыёмнік. Сам мужчына сядзіць на ложку толькі ў трэніках і майцы. З гладка паголеным тварам і без рэзкага паху, ён зусім не падобны да стэрэатыпнага бамжа.

«Зямлянку я месяцы два будаваў, пачаў у мінулым кастрычніку, — закурваючы, расказвае Сяргей. — Жыццё прыпёрла так, што давялося ў лес ісці. Яма тут, на шчасце, ужо была, я яе толькі крыху паглыбіў, сцены падраўняў, потым дах паклаў. А ўсё, што тут ёсць, я на сметніках адшукаў: дзверы, ложак, тумбу. Дыван, напрыклад, які да столі прыбіты, ён жа толькі запылены быў! Шчоткаю па ім прайшоўся — і хоць на кірмаш нясі! З ложкам такая ж гісторыя. А вось буржуйку прыйшлося пашукаць — выкупіў на металаздачы. Так мінулую зіму і перакантаваўся. А цяпер у цяпле жыву, яшчэ і вопратку ля трубы сушыць можна».

З вымаўленых без жалю словаў зразумела, што ўмовы жыцця мужчыну задавальняюць — халадзільнікам яму служыць яма з лёдам, гарачая вада таксама заўсёды побач — можна ўзяць на запраўцы, а мыцца ён штотыдзень ходзіць у лазню.

### «Не працуюць толькі бічы»

«Ну бомж я, і што? Мне цяпер па падвалах швэндацца і клапоў карміць? — разважае Сяргей. — Не, дзякуй. Мне тут добра: раніцай устаў, дроў насек, на свежым паветры размяўся. А далей працаваць трэба. Бо сённяшняе жыццё такое: працуюць нават бамжы. Нічога не робяць толькі гультаі, самыя апошнія, я іх называю «бічы» — гэта тыя, што пад крамамі з працягнутай рукою стаяць, шукаюць, да каго б у кішэню залезці. А я вось горад абышоў — тую ж бутэльку сабраў, той жа картон, метал. Глядзіш — і ёсць ужо капейка. А што да міліцыі — то я ж нікому не замінаю».

### «Мне з жанчынамі не шанцуе»

На простыя пытанні аб тым, што ж прывяло яго ў зямлянку, Сяргей адказвае неахвотна — кажа, што справа заблытаная.

«Разумееш, мне ўжо 47 гадоў, дачка ёсць і ўнучка, — скупа кажа гаспадар зямлянкі. — Дачка ў ЗША жыве, замужам. Яна ў мяне ад першай жонкі — мы разышліся з ёю непрыгожа, праз дробязь нейкую. Я і падумаў: чаго тую няшчасную аднапакаёўку дзяліць? І сышоў. Даўно гэта было. Мне ўвогуле з жанчынамі не шанцуе — не разумею я, чаго ім трэба. Яны хочуць, каб ты і грошы зарабляў, і побач увесь час быў. Але так не бывае! Колькі разоў я пасля шлюбу яшчэ заводзіў адносіны, дык усё ўпустую — цягне мяне кудысьці, не магу на месцы сядзець. Жыццё мяне панасіла — і ў Расіі жыў, і тут. Раней працаваў у Маскве, але ўжо не езджу: здароўе не тое, ды і кідаюць часта. Бандыцкія там норавы».

### «Хочаш у Еўропу? Дык ты жыві па-еўрапейску»

Маналог гаспадара перарывае скрып дзвярэй — чорная котка прашмыгвае звонку ў пакой.

«Гэта мая красуня — Бэці. Навучылася сама дзверы адчыняць — лапаю. Уяўляеш? Такім чынам мне аднойчы жыццё выратавала — заснуў я неяк выпіўшы, не буду хаваць, з цыгарэтаю ў руцэ. Матрац ад яе пачаў тлець. А я сплю, нічога не чую. І Бэці, відаць, неяк гэта адчула — сама дзверы адчыніла, пачала па мне скакаць, твар драпаць. Я прачынаюся — а тут дыму-дыму!»

Пасля таго выпадку, са словаў Сяргея, да алкаголю ён ставіцца асцярожна: маўляў, п'яны спаць не кладзецца.

«Я не алкаголік. Калі ёсць што, то магу выпіць, канечне. Але не так, каб у мяне «трубы гарэлі» — лепш чаго паесці купіць, чым усё пераводзіць на пойла. Здаравейшы буду. Аднак што да алкаголю, то я заўважыў: беларусы сапраўды шмат п'юць. Мне задзяўбло ўжо па лесе смецце збіраць — кожны дзень новы пікнічок і новыя бутэлькі валяюцца. Сорам. А яшчэ назвы гэтыя — «Еўраопт», «еўрарамонт». Смех, далібогу. Хочаш у Еўропу? Дык ты жыві па-еўрапейску. А то і самі дупу яшчэ не навучыліся падціраць, а ўжо пальцы веерам трымаюць і кажуць «еўра». Хіба той швед ці немец возьме і кіне смецце сабе пад ногі? Ды ён сто, дзвесце метраў, калі трэба, пройдзе да сметніцы. Ох, не зайздрошчу я лесніку. Бо што ён можа зрабіць? Гуляе кампанія з дзесяці «рылаў», напрыклад — дык што, ты да іх падыдзеш і заўвагу зробіш? Ніколі! Бо добра будзе, калі толькі пашлюць, а не галаву праломяць. Я б і сам, калі шчыра, пайшоў бы ў леснікі, бо падабаецца мне жыць у лесе. Я ж усё бачу — гэты гай памірае: яго карaед грызе, дрэвы гніюць, даўно не чышчаны».

### «Прыходзяць да мяне паесці»

«Чаму ж не пойдзеце працаваць? Што не дае?» — пытаюся ў Сяргея. Пасля кароткага шчырага смеху, той пачынае тлумачыць.

«Глядзі, я толькі на бутэльках і метале каля чатырох мільёнаў на месяц маю. А калі пастараюся, то і ўсе пяць, — пераконвае бомж. — А што мне дзяржава прапанаваць можа? Працу за 2—3 мільёны? І навошта яно мне? Вось гісторыя з жыцця. Прыйшоў да мяне нядаўна знаёмы, працуе на адным з заводаў баранавіцкіх. І што ты думаеш? Ён мне кажа: «Сярога, я піць не хачу, дай мне паесці». І гэта не мае фантазіі — у чалавека крэдыты, жонка і двое дзяцей, якіх накарміць трэба, у школу сабраць. Ён на працу ходзіць тры дні на тыдзень, бо завод «стаіць», а есці хочацца ўсе сем дзён. Чалавек нават той ноўтбук, які дачцэ браў у крэдыт, у ламбард занёс, каб з банкам разлічыцца. Вось так і жывём. І не ён адзін такі ў горадзе.

А наш спадар прэзідэнт ці як яго там, Лукашэнка, наракае на дармаедаў. Дык прыедзь ты сам сюды і паглядзі, як людзі жывуць! Разбярыся! А то проста казаць, што вось давайце там кагосьці прымусім працаваць — гэта, я мяркую, няправільна».

### «Я заклікаю карыстацца мазгамі»

«Буду нават паміраць — не пайду прасіць. Я так выхаваны, у інтэрнаце рос. У мяне няма такога — ісці і кагосьці прасіць. Ну здаровы ж мужык, 47 гадоў! Сышоў з сям'і, пакінуў хату — значыць, буду жыць у зямлянцы. Але ісці і прасіць кагосьці, вешаць на іншых свае праблемы? Даруйце. Няма чаго есці? Ідзі бутэлькі збірай. Мала грошай? Не выпіць купляй, а хлеба акраец. Няма курыць? Не куры, няма чаго страляць. З чаго мне хтосьці павінен дапамагаць? Вунь, колькі дзяцей хворых — хай ім дапамагаюць. А я мужык ці не мужык?»

Філасофскія развагі Сяргея сыходзяць на спад, той маўкліва задумваецца ды кажа на развітанне:

«Ведаеце, што я з гэтага жыцця вынес? Некалькі карысных рэчаў, якімі магу падзяліцца з іншымі. Першае — я заклікаю карыстацца сваімі мазгамі. Яны ў кожнага ёсць, але не ва ўсіх задзейнічаныя. Я таксама без мазгоў жыў раней, але гадоў пяць таму навучыўся трохі варушыць. А па-другое, ніколі не лезьце ў чужыя справы. Жывіце сваім жыццём і будзеце шчаслівыя — хоць у зямлянцы, хоць у пентхаўсе. Але добра, ужо ноч, засядзеліся мы».

Сяргей выходзіць са свайго жытла, разганяе ліхтарыкам начны змрок і праменем святла ўказвае:

«Кіруйцеся ў той бок, праз колькі метраў убачыце агні запраўкі, а там і горад, іншае жыццё. Бывайце».

Мужчына зачыняе дзверы, сярод начнога лесу ўжо не відаць водсвету свечкі.

**Арцём Гарбацэвіч**



ІРЫНА АРАХОЎСКАЯ



ІРЫНА АРАХОЎСКАЯ



ІРЫНА АРАХОЎСКАЯ

# Міністэрства абароны: «Нават Сталін не пабаяўся імя Тадэвуша Касцюшкі»

Адзін з чытачоў «Нашай Нівы» звярнуў увагу, што з сайта Міністэрства абароны знікла рубрыка «Нашы героі».

Варта зазначыць, што гэты раздзел сайта не так даўно трапіў пад крытыку расійскіх шавіністычных выданняў. Абурэнне выклікала тое, што ў галерэю герояў трапілі такія гістарычныя асобы, як Усяслаў Полацкі, Януш Радзівіл, Тадэвуш Касцюшка.

Чарнасоценскія выданні абураліся, што Міністэрства абароны ў героі запісала людзей, якія змагаліся супраць казакоў Багдана Хмяльніцкага і войскаў Аляксандра Суворава.

Дык ці не стала гэткая крытыка падставай увогуле зачыніць рубрыку? Мы спыталіся пра гэта ў прэсслужбе Міністэрства абароны.

Там «Нашу Ніву» запэўнілі, што на дадзены момант праходзіць дапрацоўка дадзенага раздзела. «У нас ёсць мэта абавязкова ўключыць сюды ўсіх значных беларускіх вайсковых герояў. Дзеля гэтага вывучаюцца апошнія публікацыі, праходзіць узгадненні. Мы хочам, каб гэта была сапраўдная энцыклапедыя беларускай вайсковай справы».

Мы запыталіся, ці не знікнуць у выніку з абноўленай версіі «Нашых герояў» прозвішчы Тадэвуша Касцюшкі і Януша Радзівіла? У прэс-службе заспакоілі, што ніхто не будзе зняты.

«Касцюшка застанецца. Я хачу нагадаць, што Іосіф Вісарыёнавіч Сталін не пабаяўся даць імя Тадэвуша Касцюшкі 1-ай польскай пяхотнай дывізіі», — адказаў прэс-сакратар Мінабароны.

Варта адзначыць, што Міністэрства абароны — адно з нямногіх дзяржаўных ведамстваў, якое мае паўнавартасную беларускамоўную версію сайта.

**Зміцер Панкавец**




## Актрысу Арнэлу Муці асудзілі на турэмнае зняволенне за вячэру з Пуціным

Вядомая італьянская актрыса Арнэла Муці прысуджана да васьмі месяцаў турэмнага зняволення і штрафу 600 еўра за прагул спектакля ў Тэатры Вердзі ў горадзе Пардэноне (Фрыулі-Венецыя-Джулія).



Замест таго, каб адпрацаваць абяцаны спектакль, актрыса вячэрала ў Санкт-Пецярбургу з тагачасным прэм'ер-міністрам Расіі Уладзімірам Пуціным ды амерыканскім акцёрам Кевінам Костнэрам, паведамляе Il Giornale.

Вячэра адбылася яшчэ ў 2010 г. Прысутнасць на ёй Муці даказвае відэазапіс. Аднак у тэатры свой «прагул» актрыса патлумачыла хваробай — ларынгафарынгітам, што пацвярджала медыцынская даведка, якая вызваляла яе ад абавязку выйсці на сцэну, нягледзячы на атрыманы ганарар у 25 тысяч еўра.

Адміністрацыя тэатра падала ў суд пазоў супраць актрысы, выкрыўшы яе ў прад'яўленні фальшывага медыцынскага пасведчання. Цяпер Муці можа альбо адправіцца ў турму, альбо, каб пазбегнуць турэмнага зняволення, заплаціць 30 тысяч еўра Тэатру Вердзі. Прысуд аказаўся нават больш строгім, чым разлічвала абвінавачванне.

**Сямён Цыбульскі**

## Мадонна зваліласяз лесвіцы на прэміі Brit Awards

Як сведчыць відэазапіс гэтага моманту, спявачка стаяла на прыступках, якія вялі да ўсталяванага вышэй за ўзровень сцэны подыума.

На ёй была надзета доўгая мантыя, за якую, мусіць, павінен быў пацягнуць танцор, каб эфектна зняць яе са спявачкі. Аднак зрабіць гэта яму не ўдалося, і разам з мантыяй танцор зацягнуў уніз саму Мадонну, якая ўпала на сцэну.

Пасля падзення спявачка на некалькі імгненняў спыніла спяваць, але практычна адразу працягнула выступ.

Збоку здавалася, што падзенне магло быць вельмі балючым. Аднак на старонцы Мадонны ў Instagram з'явілася паведамленне, што спявачка ў парадку, а інцыдэнт быў выкліканы тым, што адзенне было занадта туга завязана.

«Нішто мяне не спыніць, і каханне падняло мяне на ногі, — напісала спявачка, маючы на ўвазе яе песню. — Дзякуй за вашы пажаданні!»

Галоўным героем вечара стаў спявак Эд Шыран, які атрымаў дзве ўзнагароды, у тым ліку за найлепшы альбом года, які стаў самым прадаваным у Вялікабрытаніі ў 2014 годзе. Таксама ён быў названы найлепшым брытанскім музыкам.

**Бі-Бі-Сі**



**Фотафакт**




**Шпакоўская і Байсан зладзілі ню-фотасэт за свабоду творчага самавыяўлення**

Наста Шпакоўская з гурту Naka і Байсан (Алесь Плотка, TerraKod) зладзілі ню-фотасесію за свабоду творчага самавыяўлення. Ужо год цягнецца непаразуменне з выкананнем песні «Малітва» на словы Янкі Купалы, пасля якога кампазітар Алег Моўчан падаў у суд на Насту Шпакоўскую. «Наш мэсэдж просты — са стваральніка няма чаго ўзяць, акрамя творчага прадукту. Канец цытаты», — сцісла пракаментавалі акцыю яе ўдзельнікі. Аўтарам фотасэту стаў Іван Бесер.

**Кіно**

## Што адбываецца ў цябе за спінай

Фокус
**Жанр:** камедыя, драма, меладрама, крымінальны
**Рэжысёр:** Глен Фікара, Джон Рэкруа
**У ролях:** Уіл Сміт, Марго Робі, Арыян Марцінес, Джералд МакРэйні, Радрыга Сантора, Б.Д.Вонг, Брэнан Браўн, Роберт Тэйлар
ЗША, 104 хв.
**Адзнака:** 7, 5

Дасведчаны ашуканец Нікі нечакана для сябе аказваецца ў ролі ахвяры: маладая крымінальніца Джэс спрабуе абрабаваць яго, але церпіць паразу. Цяпер Джэс хоча, каб Нікі навучыў яе сваёму рамяству і ўзяў у каманду для здзяйснення буйных афер. Хутка паміж элегантымі злачынцамі завязваецца адносіны, якія могуць негатыўна паўплываць на іх рызыкоўны бізнэс.

Стужка створаная па арыгінальным сцэнары рэжысёраў праекта Глена Фікара і Джона Рэкруа. Фільм зняты ў жанрах крымінальнай камедыі і любоўнай драмы: у сюжэт аб адваротным баку жыцця крымінальнікаў — дробных злачынцаў — уплеценая гісторыя кахання Нікі (Уіл Сміт) і Джэс (Марго Робі). На здымачнай пляцоўцы з выканаўцамі галоўных роляў працаваў сапраўдны фокуснік-прафесіянал Апола Робінс — ён навучыў акцёраў тым трукам, якімі карыстаюцца злачынцы.

«Для мяне самым захапляльным было вывучаць чалавечае мысленне. Як толькі нас пераконваюць, што мы кантралюем сітуацыю, намі вельмі лёгка маніпуляваць. Мы думаем, што ўсё самае важнае адбываецца, вядома ж, у нас перад вачыма, а на справе аказваецца, што ўсё адбываецца ў нас за спінай», — сказаў Уіл Сміт пра сваю ролю прафесійнага ашуканца.




Ад прагляду не варта чакаць глыбокіх уражанняў, але з забаўляльнай роляй фільм спраўляецца. Адначасова гэта і шматслойны дэтэктыў, і здзек з класічнай меладрамы. Павароты сюжэта часам досыць нечаканыя, а гульня акцёраў зладжаная і прафесійная. Да таго ж можна палюбавацца гарадскімі пейзажамі: здымкі адбываліся ў Новым Арлеане і Буэнас-Айрэсе.

**Настасся Уласава**

# Глядзім на штрыхкоды

На ўсялякі выпадак напішу, хоць ведаю, што многія робяць гэтаксама. І разумею, што гэта дробязь, піск.

У крамах заўсёды вышукваю і набываю прадукцыю з Украіны. Часам гэта нялёгка, часам выбар слабы, часам не зусім тое, што мне трэба. Але набываю менавіта ўкраінскае. Беларускае таксама, вядома.

Ніякай Расіі!

**Сяргей Салаш, Барысаў**

Мы ўжо год нічога расейскага не набываем. Думаў падчас рамонту будзе цяжка, але ўдалося. Нават лінолеум славенскі знайшоўся.

Самае прыемнае, што мае дзеці, Марта з Якубам, ужо на аўтамаце глядзяць на штрых-коды.

Так раблю для сябе, не для страты расійскіх вытворцаў, а для сябе. Я НЕ ХАЧУ іх набываць. Мне непрыемна.

**Зміцер Салошкін, доктар, Мінск**

**Сваімі імёнамі**

# Дзе знаходзіцца «беларускі Данбас»?

Колькі словаў пра стабільнасць і рэвалюцыю.

*...Каб на вас напаў «дамбас»... (З сучаснага беларускага фальклору)*

Так павялося, што жылі на Данбасе хахлы, шахцёры і дамбасёры. Калі першае — народнасць, другое — прафесія, то трэцяе — стан свядомасці, а дакладней, жаданне не быць ні першым, ні другім.

Па сутнасці, дамбасёры — нашчадкі казацкай вольніцы, шахцёрскай упартасці і наіўнага чакання, што «ўсё дасць Масква».

А калі не дасць, то прынамсі пазбавіць ад кіеўскага «бюракрата», мясцовага «алігархата» і нялюбай «мовы». Дзіўны кактэйль з бунтарства і веры ў бясконцую расейскую «халяву»! Гэта на першы погляд Данбас — цэнтр украінскай «вандэі», а насамрэч — нечаканы, «перпендыкулярны» працяг кіеўскай рэвалюцыі ў рэчышчы, канкурэнтным Майдану. Каб было не так, то Януковіч даўно б сядзеў у Данецку і рыхтаваў сваё «законнае» вяртанне на кіеўскі «стол». Але не верац дамбасёры ні ў свайго былога атамана, ні ў новага ўкраінскага гетмана, а спадзяюцца толькі на «моц і праўду» крамлёўскага гаспадара. Яны не першыя на гэтым зманлівым шляху (калісь і Хмяльніцкі прыхінуўся быў да «вялікарускага шчасця»), аднак пераканаць верніка могуць не словы, а толькі самое жыццё. На жаль, смерць часта прыходзіць да таго, як мы паспяваем усвядоміць свае фатальныя памылкі...

Калі з Украінай ўсё зразумела, то з намі не так адназначна і відавочна. Дзе знаходзіцца беларускі «Данбас»? Ці ёсць шанец, што мы паўторым лёс нашых паўднёвых суседзяў? Апошняе, на маю думку, мала верагодна, бо наша «вандэя» разлеглася ад Брэста да Хоцімска і ад Браслава да Брагіна, а галоўны «дамбасёр» даўно атабарыўся ў Мінску. Русіфікацыя Гародні, Гомеля ці Віцебска практычна ўсюдых падыходзіць да апошняй мяжы.

А галоўнае, што «данбаскі разлом», то бок геапалітычны водападзел, праходзіць... праз галовы нашых суграмадзян.

Беларускі «данбас» — паняцце не геаграфічнае, а інтымна-псіхалагічнае. Бо кожны з нас носіць ў сабе (хто меншага, хто большага) — уласнага «дамбасёра». А ці ж можа левая паўкуля мозгу ваяваць з правай, не пакідаючы межы адной галавы? Напэўна, можа, але то будзе ўжо хвароба (накшталт падваення асобы) альбо ментальная «вайна» без танкаў і гармат. І калі ў той «вайне» не лопне ваш чарапок, то пераможа толькі... сэрца. Бо сэрца цэльнае і больш чуйнае да гвалту і несправядлівасці і можа знайсці выйсце там, дзе халодны рацыяналізм і сляпая нянавісць спляліся ў «гордзіеў вузел» гарачай вайны.

«Беларус па духу, але не па мове». Не выключаю, што і такім можа быць вынік той духоўнай працы і сумоўя, што спрабуе рабіцца зараз і мусіць працягнуцца ў агляднай будучыні. І гэта лепш, чым горы мёртвых беларусаў (двух- ці аднамоўных) альбо мільёны амерыканскіх, польскіх ці аўстралійскіх грамадзян беларускага паходжання.

«Каго любіш?» — «Люблю Беларусь!»

Гэтыя простыя словы з пазамінулага стагоддзя сёння ці не галоўная зброя супраць разбуральнай нянавісці, што метастазамі прарастае ў нашых думках і набліжае да той мяжы, за якой пачынацца сапраўдны, незваротны «дамбас»...

**Васіль Аўраменка, доктар, Магілёў**




**Смешны фантан у вёсцы Гулевічы Калінкавіцкага раёна. Фота Аляксандра Бачарова, Мазыр.**

# На барысаўскім базары адна «Расія»

Даўно не быў на рынку ў Барысаве, а ў нядзелю трэба было з'ездзіць з вёскі ў Стары горад па камбікорм для курэй. Вось і па гандлёвых шэрагах прагуляўся. Гэтае торжышча ў маім акружэнні, дарэчы, колькі сябе помню называлі толькі «базарам», хоць астатняя ўжо рынкам.

Дык вось непрыемна быў уражаны вялікай колькасцю прадукцыі з надпісамі «Расія». І тут табе і сумкі, і шапкі, і спартыўныя касцюмы. Прычым вісяць на самым відным месцы. Купляйце, людзі добрыя, насіце на здароўе!

І прадаюць жа не в'етнамцы, якіх троху ёсць на гэтым базары, а свае, тутэйшыя. І ніякіх жа згрызот сумлення. А мы яшчэ перажываем, калі індывідуальным прадпрымальнікам пагаршаюць умовы працы…

Ніякай прадукцыі з беларускай атрыбутыкай, ужо не кажу пра нацыянальную, а пра дзяржаўную, нідзе не пабачыў. Вось такі невялікі «рускі мір» у малым беларускім горадзе.

**Яўген Мароз, Барысаў**

# Пра банкаматы і мову

На банкаматах банка «Масква-Мінск» самае першае меню высвятляе моўныя прэферэнцыі карыстальніка — Русский, English, Deutch, Francais. А дзе ж беларуская мова?..

Дыскрымінацыя беларускай мовы на карысць рускай даўно зрабілася звыклай. Ужо нават англійская, французская і нямецкая мовы маюць больш правоў на нашай зямлі, чым беларуская!

Тое самае ў банкаматах «Альфа-Банка», «Тэхнабанка» ды іншых. Але ў выпадку банка «Масква-Мінск» гэта выглядае асабліва ганебным, бо яго летась адкупіла наша дзяржава і адным з удзельнікаў куплі быў Нацбанк.

Для параўнання: «Прыёрбанк» мае аўстрыйскія карані, але беларускую мову падтрымлівае хаця б на ўзроўні банкаматаў. І ў БПС-Сбербанку не забыліся пра беларускую мову.

Між народамі — як між людзьмі: хто ж будзе цябе паважаць, калі сам сябе не паважаеш? Відавочна, што ў выпадку Беларусі менавіта стан беларускай мовы з'яўляецца самым слабым месцам у падмурку дзяржаўнасці. А калі што добра стаяла на нетрывалым падмурку?

**А.Бабкоўскі**

**Ад рэдактара**

Паведамляйце ў «Нашу Ніву» пра ўсе цікавыя ці, наадварот, абуральныя факты.

У большасці выпадкаў публікацыя ў незалежнай газеце аўтаматычна прыводзіць да выпраўлення сітуацыі. Але для гэтага ў Вашым паведамленні мусіць быць канкрэтыка, а Вашы нараканні павінны быць законнымі і справядлівымі.

Пішыце, як Вам зручна: на электронную пошту, у скайп, пісьмом ці праз форму на сайце NN.BY.

**Наш адрас: а/с 537, 220050 Мінск.**
**e-mail: nn@nn.by. Факс: (017) 284-73-29 Skype: nashaniva**

**Афіцыйна**

## Суддзя, які разгалосіў медыцынскую таямніцу, атрымаў вымову

Магілёўскі суддзя Станіслаў Леўчанка атрымаў вымову. Нагодай для яе стала перадача пікантных падрабязнасцяў судовага працэсу над транссэксуалам і далейшае разгалошванне медыцынскай таямніцы ў публікацыі ў мясцовай газеце «Вячэрні Магілёў» (глядзі «НН» №2).



Усевалад Сцебурака

## Сабачая адзінота

Калі гаспадар выходзіць,
нават на пяць хвілін,
сабаку здаецца,
што ён застаецца
ужо назаўсёды адзін!

Ляжаць непатрэбныя цацкі,
салодкая костка ляжыць.
Сабаку тужліва,
і жыць немажліва,
і час так марудна бяжыць!

А побач за сценкай свабода
Буяе, віруе, кіпіць!
І добрыя людзі,
і такса, і пудзель —
Вось жыць бы, здаецца, і жыць!

А кепскія думкі пануюць,
псуецца сабачы настрой —
сядзіць як пабіты,
усімі забыты.
І смерці чакае з касой!

Ды раптам пачуюцца крокі
Павернецца вочка замка —
прылашчыць, абдыме,
тугу ў момант здыме
найлепшая сябра рука!

**Дурні**



**У вёсцы Гуды валожынскія работнікі «памылкова» спілавалі дуб, які перажыў чатыры вайны і дзве меліярацыі.**

**Прыватныя абвесткі**

**Віншуем Змітра Дразда і Вікторыю Паўлючык** з нараджэннем сына Паўла!

**Віншую дарагога тату Уласава Мікалая Сямёнавіча** з Днём нараджэння. Здароўя і радасці! Настасся

**Выказваю шчырыя спачуванні** родзічам і блізкім з прычыны смерці **Сявец Наталлі Мікалаеўны**. Радаслаў, яе вучань

**Сяброўскае падарожжа**

**По радзівілаўскіх абшарах: захапляльная вандроўка з «Куфэркам падарожжаў»**

У падарожжы нас чакае знаёмства з цікавымі помнікамі гісторыі і культуры гістарычнай Случчыны, былых радзівілаўскіх уладанняў: Замосце — рэнесансавы касцёл XVII ст., Камсамольскае (гіст. Пукава), Грозава, Капыль, Клецк, Лань. Кошт вандроўкі — 250 000 руб. Кантакты: (029) 169-48-11, (0 29) 111-73-32 meliashkevich@gmail.com, antonastapovicz1@gmail.com

# Работніц Мінюста, якія пасля Плошчы адбіралі ліцэнзіі ў адвакатаў, судзяць за хабар

Чыноўніцы «дапамагалі» здаваць экзамены юрыстам і рыэлтарам.

Супрацоўніц Міністэрства юстыцыі затрымалі ў сваіх кабінетах яшчэ ў жніўні 2013. Галіна Грышкавец узначальвала ўпраўленне адвакатуры і ліцэнзавання юрдзейнасці, Наталля Беразоўская была яе намесніцай. Абедзвюх узялі, як паведамілі ў КДБ, пры атрыманні хабару ў $1000 ад заснавальніка будаўнічай фірмы. Але выпадкі былі не адзінкавыя.

Да арышту жанчыны запомніліся тым, што пасля Плошчы-2010 пазбаўлялі ліцэнзій некаторых адвакатаў, што абаранялі апазіцыйных палітыкаў. У прыватнасці, Паўла Сапелку (абаронца Саннікава), Алега Агеева (Міхалевіча), Тамару Сідарэнку (Някляева).

Праз паўтара года пасля арышту пачаўся суд. Па справе праходзяць 65 сведкаў. А на лаве падсудных — яшчэ трое абвінавачаных: Марцінкевіч, Сцёпін і Шэўчык. Адзін з іх — той самы заснавальнік будаўнічай фірмы, іншы — дырэктар рыэлтарскага агенцтва.

### Не пагрэбавала і дацэнтка БДУ

Былых чыноўніц вінавацяць у тым, што дапамагалі здаваць экзамены: каму на атрыманне адвакацкай ліцэнзіі, каму на атэстат юрыста. Не за так, як сцвярджае пракурор.

Адной са сведкаў на працэсе стала дацэнтка БДУ, вядучы юрысконсульт прыватнага прадпрыемства «Тэхналогіі кіравання» Валерыя Жыгуліч. Маладая жанчына, як высветлілася, у 2013 атрымала ліцэнзію юрыста. Праўда, яна хоць і была ўжо кандыдатам навук і выкладчыкам юрфака БДУ, але экзамен у Мінюсце здаць сама не змагла. Атрымаць жа запаветны дакумент дапамог выпадак. Яе швагер на курсах замежнай мовы пазнаёміўся з работнікам Мінюста Мікалаем Азаранкам. А калі пачуў, што сваячцы трэба як найхутчэй здаць экзамен, звярнуўся да прыяцеля. Той пры сустрэчы ўжо з Галінай Грышкавец удакладніў, «ці можна звярнуцца да яе, калі ўзнікнуць праблемы». Пытанне гучала так: «Каб чалавек мог паспяхова здаць экзамен». Яна адказала, што, калі будзе магчымасць, дапаможа», — расказаў на судзе Азаранка.

У дзень экзамену, 27 сакавіка 2013, Жыгуліч не змагла правільна прайсці тэст. Давялося яе запрашаць у кабінет да Грышкавец.

Праўда, калі ў залу суда запрасілі самога дацэнта, яна амаль нічога не змагла расказаць. «Не памятаю», — адказвала Валерыя. Ні як здавала экзамен, ні як выпраўляла тэст. Давялося зачытваць яе сведчанні, якія давала на допыце ў КДБ: «Зайшла ў кабінет Грышкавец, павіталася. Апошняя прапанавала мне пераправіць недакладныя варыянты адказаў на правільныя, што я і зрабіла».

Выявілася, што ўжо ў сакавіку 2013 у кабінеце Грышкавец стаяла схаваная камера. На запіс трапіла і сустрэча гаспадыні кабінета з Жыгуліч.

«Я сапраўды ёй дапамагала скарэктаваць тэст», — пацвердзіла на судзе Грышкавец.

А дзесьці паўгода таму Жыгуліч здала ў Мінюст сваё пасведчанне юрыста. У міністэрстве намякнулі на расследаванне: «Завуалявана было сказана, выразна ніхто не казаў», — скардзіцца яна. А дакумент вырашыла здаць, каб «не было шуміхі, камісій нейкіх».

### Дапамагалі не толькі юрыстам

У справе фігуруе таксама адвакат Топаз, які ў маі 2013 атрымаў адвакацкую ліцэнзію. Паводле пракурора, у бланку адказаў Топаза быў шраг выпраўленняў. Па словах жа былой работніцы Мінюста Валянціны Якімовіч, якая ў камісіі прымала экзамены, выпраўленні не прадугледжаны правіламі. Той з членаў камісіі, хто правяраў тэст, у канцы ставіць агульную колькасць правільных адказаў. І ніхто не перапраўляе.

«Пра тое, што Топаз мог звяртацца да Беразоўскай з просьбай паспрыяць яму ў паспяховай здачы экзамену на атрыманне ліцэнзіі на адвакацкую дзейнасць, мне вядома не было. Мне Беразоўская нічога не казала», — зачыталі паказанні іншай сведкі, таксама работніцы Мінюста, Барэйшы.

Па версіі следства, так прымаліся экзамены і на камісіі Мінюста па рыэлтарскіх паслугах. За грошы можна было дамовіцца на станоўчы вынік.

**Сяргей Макарэвіч**


«За гэты час я моцна відазмянілася — яна [сведка] мяне не пазнае», — сказала Галіна Грышкавец. Амаль паўтара года ў ізалятары паўплывалі на яе знешнасць.


Такой яна была да арышту.


Наталля Беразоўская змянілася таксама.

## Злодзей-віртуоз збег з Беларусі на крадзеным «Кадзілаку»

Яго злавілі, але Бог пакараў яго яшчэ раней.

Сяргея Багдашова павінны былі асудзіць яшчэ ў маі 2009 за крадзеж, у тым ліку аўто, падробку дакументаў. У справе фігуравала больш за 30 эпізодаў. Пракурор нават паспеў агучыць сваё патрабаванне — 10 гадоў калоніі. Заставалася слова за суддзёй. Але Багдашоў вырашыў адкласці гэты трапяткі момант: надумаў збегчы. І калі яго прывезлі ў Жодзіне ў суд, накінуўся з заточкай на канваіра. Выхапіў у таго пісталет з запаснай абоймай і кінуўся наўцёкі.

Канваіра нават паспелі асудзіць за халатнасць, а галоўнага фігуранта ўсё не маглі знайсці. У 2010-м у Пскове яго ледзь не затрымалі: збег ад паліцыі па вяроўцы з чацвёртага паверха. А ў ліпені 2014 у Падмаскоўі адправіўся на рабаванне катэджа. Напакаваўся на некалькі соцень даляраў. А калі ўжо сыходзіў, вырашыў махнуць праз плот, каб скараціць дарогу. Ды не разлічыў сілы. Зачапіўся нагой і моцна яе разадраў. На плоце яго і заспела ахова.



У Міністэрстве ўнутраных спраў раскрылі падрабязнасці некаторых ранейшых злачынстваў Багдашова ў Беларусі. Злодзей аказаўся дзёрзкім і віртуозным.

Затрымалі яго ў 2008, калі ён ужо тры гады «адпрацоўваў» Міншчыну і Віцебшчыну. Накраў амаль на мільярд рублёў. На кожную справу ён хадзіў у пальчатках, а абутак пасля кожнага крадзяжу мяняў. А перад затрыманнем у яго быў сон: людзі ў масках рукі круцяць. Раніцай і затрымаў спецназ.

Але проста красці было мала — хацелася адрэналіну. «Аўдзі А6» галоўнага інжынера аднаго з прадпрыемстваў Мар'інай Горкі, якую ён упадабаў, «увёў» проста са стаянкі з-пад носа ў вартаўніка, калі той спаў. Але спачатку пралез на другі паверх офіса прадпрыемства, адшукаў там ключы ад машыны і толькі тады з'ехаў.

На адным падворку ён натрапіў на двух ратвейлераў. Але здолеў іх загнаць у будку, каб не перашкаджалі красці. Пашанцавала: маглі ж сабакі і загрызці.

А ў іншым выпадку ён некалькі гадзін правазіўся з уваходнымі дзвярыма, так і не здолеўшы іх узламаць. Праўда, разбудзіў гаспадароў. Але паспеў збегчы.

Пасля таго, як ён уцёк з-пад канвою, у Смалявіцкім раёне скраў «Кадзілак». На ім і ўкаціў у Расію ў той час, як яго шукалі па ўсёй Беларусі.

...А нагу, якую Багдашоў пашкодзіў пры ўцёках з катэджа ў Падмаскоўі, у выніку ампутавалі. Цяпер 36-гадовы беларус чакае суда ў Расіі. Пасля ўжо будзе вырашацца пытанне з экстрадыцыяй.

**Кастусь Матушыч**

## Сцісла

### Два дні пілі, а пасля згарэлі

На пажары ў вёсцы Мішневічы ў Шумілінскім раёне згарэлі тры чалавекі. У госці да 73-гадовай пенсіянеркі і яе 49-гадовага сына зайшоў сусед. Пачалі выпіваць. Па словах аднавяскоўцаў, на другі дзень п'янкі хата загарэлася. Калі прыехалі ратавальнікі, з дома дасталі толькі тры трупы. Мяркуецца, што прычынай пажару стала курэнне.

### Забойства ў кавярні ў вёсцы Заслонава

59-гадовая жанчына адпачывала ў кавярні ў вёсцы Заслонава Лепельскага раёна з 34-гадовым сынам. Там сустрэла кавалера. Сыну не спадабалася, як той абыходзіцца з маці, і ён зрабіў заўвагу. Размову мужчыны перанеслі на вуліцу. Старэйшы доўга не гаварыў: нажом пырнуў малодшага ў шыю. З ранай сын здолеў дабегчы дахаты, але там памёр.

### Мужчыну ветрам зацягнула пад цягнік

60-гадовы мінчук стаяў на чыгуначным прыпынку Пціч, калі міма праязджаў таварны цягнік. Плыняй ветру мужчыну зацягнула пад састаў. Ён загінуў на месцы.

### Беларуса падазраюць у атручэнні 40 чалавек

Наркапаліцыя Расіі абясшкодзіла міжнародную групу, якая распаўсюджвала спайсы ў Варонежы. Мяркуецца, што ад іх наркотыкаў атруцілася больш за 40 чалавек. Кіраваў групай з-за мяжы 31-гадовы грамадзянін Беларусі. Каб затрымаць беларуса, паліцэйскія завабілі яго ў Расію.

**КМ**

# Якога колеру сукенка?

«Сукенка разладу» **падзяліла свет**.

Калі карыстальніца Tumblr выклала ў сваім блогу здымак сукенкі і спытала ў сваіх падпісчыкаў, якога яна колеру — белага з залатым або сіняга з чорным, — дзяўчына і не меркавала, што ў выніку аб гэтым будзе спрачацца ўвесь інтэрнэт.

Вырашыць спрэчку паспрабавалі з дапамогай тэхналагічных аргументаў, напрыклад, праграмы Adobe Color CC. Кампанія Roman Originals, якая прадае гэтую сукенку, пацвердзіла, што яна насамрэч сіня-чорнае. Па словах прадстаўніка кампаніі, такіх высокіх продажаў у іх ніколі не было. Акрамя таго, яны адзначылі, што кампанія думае пра тое, каб выпусціць белазалатую версію.

Сукенка ўжо атрымала назву «сукенка Шродзінгера».



Акрамя дрэннай якасці здымка, спрэчка тлумачыцца яшчэ і тым, як мы ўспрымаем свет. Наш мозг апрацоўвае светлавыя хвалі рознай даўжыні, кожная з якіх адпавядае асобным колерам. Як патлумачыў Бэвіл Конуэй, навуковец, які займаецца даследаваннем колеру і зроку, дзённае святло ўплывае на тое, як мы ўспрымаем колер прадметаў, і змяняе іх. Таму пры поглядзе на сукенку наш мозг робіць папраўку на дзённае святло і «адсякае» адзін з колераў — сіняваты або жаўтлявы. З-за індывідуальнасці ўспрымання адным здаецца, што сукенка бела-залатая, а іншым — што яна сіня-чорная. Акрамя таго, падобны эфект можа тлумачыцца яшчэ і аптычнай ілюзіяй: на тое, як мы ўспрымаем колер прадмета, уплываюць фон, на якім ён размешчаны, і асвятленне. Здымак мог быць зроблены пры блакітным святле, у якім шмат каму можа здавацца, што сукенка белае.

**Вольга Гарапучык**

## «Барысаў-Арэна» сярод самых прыгожых стадыёнаў свету

Сайт StadiumDB, прысвечаны спартовым арэнам, правёў конкурс на званне самага прыгожага стадыёна, які быў пабудаваны ў 2014 годзе. Усяго для галасавання былі абраныя 32 стадыёны з усіх куткоў свету — ад Бразіліі да Сінгапура. Пачэснае месца ў гэтай кампаніі заняла і «Барысаў-Арэна», якая была здадзеная ў эксплуатацыю ў маі летась.

Гэты конкурс ладзіцца ў пяты раз. Сёлета ў ім брала ўдзел рэкордная колькасць удзельнікаў — 96 тысяч 772 чалавекі. Кожны павінен быў расставіць стадыёны па першых пяці пазіцыях: за пятае месца стадыён атрымліваў — 1 бал, за чацвёртае — 2, за трэцяе — 3, за другое — 4, за першае — 5.



Як адзначаюць арганізатары, найбольш актыўнічалі прадстаўнікі Бразіліі, Расіі, Іспаніі і Польшчы.

У выніку галасавання наведнікамі сайта «Барысаў-Арэна» заняла 7-е месца, набраўшы 63 371 пункт. Хаця ў дзясятку па меркаванні журы беларускі стадыён, на жаль, не трапіў.

А самым прыгожым стадыёнам карыстальнікі інтэрнэту назвалі Allianz Parque, які размешчаны ў бразільскім Сан-Паўла.

**ЗП**

## «Зайка-хакеіст» — новы герой інтэрнэту

**Расія абірае талісман** да хакейнага чэмпіянату.

На вэб-сайце галасаванкі прадстаўленыя 503 варыянты талісманаў, якія даслалі на конкурс. Самыя папулярныя варыянты талісманаў — жывёлы-хакеісты. У асноўным гэта мядзведзі, барсы, тыгры.

Сустракаюцца і даволі дзіўныя персанажы. Напрыклад, дэльфін-хакеіст Цімошка, Бярозка Метэор, Хахуля Хакуля, Матылёк «Наперад да перамогі» з расійскім трыкалорам на крылах, двухгаловы крылаты МоскаПітэк (Мядзведзязаўр), Чырвоная Машына, якая насамрэч з'яўляецца чырвонай машынай без намёку на дачыненне да хакея, і гуллівага выгляду Руская Дзяўчына.



**За Зайку-хакеіста прагаласавала 435 тысяч карыстальнікаў.**

Трэба адзначыць, што карыстальнікі сеціва творча падышлі да выбару маскота і вырашылі «патроліць» арганізатараў чэмпіянату.

Абсалютным лідарам галасавання з'яўляецца Зайка-Хакеіст — заяц з клюшкай, намаляваны ў найлепшых традыцыях paint-прымітывізму. Зайка Хакеіст ужо набраў больш за 435 тысяч галасоў.

Кожны наведвальнік можа аддаць свой голас дванцаці талісманам. Інтэрнэт-галасаванне за талісман скончыцца 16 сакавіка.

**Яўген Крэйда**



Меркаванне

# Для мяне ДДТ пахне потам

Піша **Стась Карпаў**.



Сходзілі мы на ДДТ, карацей. Але размова, уласна кажучы, — не пра канцэрт. Свіння ўсюды бруд знойдзе, ну я, значыць, за свінню.

Шаўчук, канечне, мае рэспект і ўсё такое. Праўда, я не вельмі люблю настаўнікаў, а дакладней людзей, якія пад выглядам адкрыцця шэпчуць табе на вуха банальнасці, па-сяброўску, а то і па-бацькоўску паклаўшы руку на плячо. Але гэта дробязі і прыватнасці. У гэтым жа ўвесь Юрый Юліянавіч.

Наогул, канечне, ён сапраўдны паэт. Паэт, каторы, праўда, вывучыў свае тэксты, але не да канца вывучыў, што няма ніякай Белоруссіі. Але гэта яшчэ адна дробная дробязь.

А цяпер — галоўнае, праз што я выйшаў з «Мінск-Арэны» злы. Амаль хворы.

Шаўчук спеў шмат сваіх старых хітоў, але ні пад адзін публіка так не шалела, як пад «Родзіну». Дык вось. Народ проста сатанеў і біўся ў канвульсіях ад «Родзіны», а ў мяне ўсё пыталі: фігля ты не скачаш, хоць і не маскаль? Чо ты стаіш як балван! Фігля ты з посным хлябальнікам круціш башкой, а?

А круціў я посным хлябальнікам і не скакаў — вось чаму. Справа ў тым, што я перад сабой бачыў нейкую гіперактыўную дзеванньку, каторая матляла галавешкай і трапляла валасамі ў твар. Якая нібы сышла наўпрост з ідэальнага фільма пра людзей, якія каўбасяцца на канцэртах. Усе яе эпілептычныя рухі былі такімі, «як у фільмах». Пад гэтую ж музыку каўбасіўся і чувак, які на выхадзе харкне на сцяну і, хістаючыся, папаўзе на прыпынак. І тысячы нейкіх безыдэйных утыркаў, калгасных цётак і дзядзек, якія настальгуюць па сваёй маладосці «на філары».

Усе яны пелі вось што: «Боже, сколько правды в глазах государственных шлюх. Боже, сколько веры в руках отставных палачей! Ты не дай им опять закатать рукава...» Разумееце? Гэтыя інкубатарскія фанаты, безыдэйныя канфармісты. Хай там былі і іншыя людзі, нашы людзі — але ў сваёй масе...

Я спакойна стаўлюся да чалавечай баязлівасці, слабасці, хлуслівасці. Нават гатовы сказаць, што гэта ў той ці іншай ступені нармальна. Але мяне выварочвае, калі я бачу, як дробныя, дурныя, сцыклівыя, безыдэйныя чалавечкі пяюць гімны мужнасці, адчуваючы сябе судачыненымі да гэтага акту. Гэта пачварна. І тады ж я зразумеў, што думаю не пра канкрэтна гэтых людзей на стадыёне, а пра людзей наогул.

Я ўзгадаў юнацтва. І ўзгадаў «філару», і ўзгадаў былога сябра, які вырас такім пачварным канфармістам і мудаком — што слоў няма, каб гэта перадаць. Дык вось, ён, памятаю, без голасу і слыху роў ва ўсё горла, рассякаючы ў берцах: «...ты не дай им опять закатать рукава, ты не дай им опять закатать рукава! Рооооооодіна!» І нават цоеўскую: «Перемен требуют наші сердца!»

А як ён любіў песню «Я получіл эту роль»! Як ён спяваў: «вот хітрейшіе просто давно положілі на всё», «іх тяжелая юность прошла вдалеке от вещей, тех, которые так переполнілі доверху нас»?! Як ён любіў...

І зараз я думаю: а што ён чуў? Што ён чуў у гэтых песнях, калі вырас вось такім і, можа быць, таксама прыпёрся ў «Мінск-Арэну», каб з астатнімі праспяваць пра тое, якія яны гераічныя і разам супрацьстаяць крывавым катам. Нейкім. Абстрактным.

А спытай іх пра Лукашэнку. Спытай, давай! А яны табе адкажуць: а чо? Бацька ўсе правільна дзелает! Бацька абяспечвает парадак. А разруха — яна не ў сарцірах, а ў галавах. Рооооодзіна.... еду я на родзіну!

Ад гэтых пацаноў і дзяўчынак на філары вечна пахла потам. І ўчора я зноў адчуў гэты пот з усіх бакоў ад тых самых пастарэлых дзяцей філары. І іх дзяцей. Яны смярдзяць, яны пяюць, яны ніколі нічога не зразумеюць. Я люблю ДДТ. Але ДДТ для мяне пахне потам.

**Стась Карпаў**

Паэт. Жыве ў Мінску. Працуе ў сферы IT.

# Чалавек рэдкай прафесіі: незалежны выдавец

Пра **Аляксандра Рыжага**, які выдае гістарычную літаратуру ў Гродне, піша **Сяргей Астравец**.

Калісьці продкі Аляксандра Рыжага марылі пра Парыж. Ён сам ледзь не застаўся ў Берліне. Але спачатку, стаўшы ў 22 гады юрыстам, трапіў следчым у міліцыю, меў па трыццаць крымінальных спраў у сейфе. Гэта быў цікавы час, кажа Аляксандр, 1993—94 гады. Але сказаў сабе адночы: досыць. Пайшоў юрыстам на тэлебачанне, тады беларускамоўнае. Гэта быў штуршок да выдавецкіх спраў, як ён сам цяпер разумее.

Наступны крок — год быў у Нямеччыне хаўс-майстрам у фірме, якая займалася паліграфіяй і інтэрнэт-рэкламай. Праца ў цэнтры Берліна, у «Mitte», на Аляксандэр-плац... Хацеў нават перавезці сям'ю, але ўсё ўзважыў і вырашыў, што лепей жыць дома, у Гродне.

Вярнуўшыся, знайшоў выдаўца Іллю Мельнікава. Разам выпускалі «макулатуру», брашуркі для абітурыентаў. Офіс у Мінску, друк у Расіі, распаўсюд па Беларусі, вялікія наклады... Потым была праца ў выдавецкім цэнтры ўніверсітэта імя Янкі Купалы ў Гродне. Пяць гадоў таму разам з Юрыем Мілеўскім заснавалі выдавецкае ТАА «ЮрСаПрынт» — прадпрыемства «Юры і Сашы».






### Кнігі

Мы размаўляем з Аляксандрам Рыжым у памяшканні «ЮрСаПрынт» на Маркса, 11. Гэта ў гістарычнай забудове Гродна, вуліца адна з найстарэйшых у горадзе. Калі выйсці на падворак, за дахамі ўбачыш гмах катэдральнага, былога езуіцкага, касцёла XVII стагоддзя. Гаспадар гаворыць па-беларуску. Яму падабаецца працаваць у месцы, дзе ўсё дыхае гісторыяй.

Выпадкам, які вызначыў стратэгію выдавецтва, была сустрэча з гісторыкам архітэктуры Ігарам Трусавым. Той прынёс для выдання некалькі гістарычных кніг: пра Каложскую царкву, гісторыю гродзенскіх мастоў і прыгарадных рэзідэнцый караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага. На першую прэзентацыю прыйшло столькі людзей, што не было дзе сесці. І Рыжы пераканаўся: гродзенцы хочуць ведаць пра свой горад усё.

Па выданнях «ЮрСаПрынт» можна вывучаць жыццё горада ў ранейшыя часы. І можна аднаўляць яго аблічча. Напрыклад, з дапамогай кнігі Ігара Трусава аб страчанай у XIX—XX стагоддзях гродзенскай архітэктуры. Сам выдавец прызнаецца, што акунуўся ў старыя здымкі, і калі ішоў па горадзе, то бачыў Гродна такім, якім яно было некалі. Словам, друкаваць такія кнігі — сціраць белыя плямы на гарадской мапе.

### Малымі сіламі

Сам Аляксандр можа звярстаць кнігу, намаляваць вокладку, надрукаваць на рызографе. Але абавязкі размеркаваныя, многае на плячах другога заснавальніка выдавецтва Юрыя Мілеўскага. Ёсць яшчэ дзве супрацоўніцы. Больш браць людзей нельга: не будзе чым плаціць. А падвышаць цэны неразумна. «Таму лепей астатняе буду рабіць сам», — распавядае Аляксандр Рыжы. Бухгалтэрыя, набыццё матэрыялаў, разлікі — усё робіцца самім выдаўцом. «Прыемна, што нечаму вучышся, і з гэтага нешта выходзіць, можна нават фінансава адчуць».

Канкурэнтаў у «ЮрСаПрынт» сёння ў Гродне няма. Але нават калі з'явяцца, будзе цікава, мяркуе ён.

### Хобі выдаўца

Аляксандр называе сябе скарбашукальнікам. Гаворыць, што любіць вандроўкі, ведае гродзенскія ваколіцы. Прыехаць, пабачыць нейкую мясціну для яго — задавальненне. І магчымасць убачыць «рэшткі гісторыі».

### Мужчынскае прозвішча

Жонка Аляксандра, Марына, кіруе дзіцячым танцавальным калектывам. Сын Ілля, якому будзе зараз васямнаццаць, марыць стаць пісьменнікам. Прозвішча жонкі, дарэчы, Курыловіч. Гэта сямейнае, кажа Аляксандр: жанчыны, якія выходзілі замуж за Рыжых, пакідалі сваё дзявочае прозвішча.

### Са шляхты

Выдавец Рыжы моцны сваім радаводам, які дапамагае ўсведамляць сябе тым, кім ён сёння ёсць. А кім былі яго продкі? З аднаго боку, гэта сям'я Бялеўскіх, якая паходзіць з Магілёўскай губерні. «Усе дакументы маю ў арыгіналах», — зазначае ён. Прапрадзед быў прадвадзіцелем дваранства ў Горацкім павеце. Яго сын Леанід ажаніўся са Смірніцкай Марынай — паходзіла з Пецярбурга, дзе скончыла Смольны інстытут. Яна ведала апошняга імператара з імператрыцай і Распуціна.

1918 год, прадзед быў адвакатам у Магілёве. Узяўся абараняць святара. Яму прыгразілі расстрэлам. Давялося ўцякаць. «Яны спачатку беглі ў Мінск, які быў нямецкім на той час. Прадзед троху меў грошы. Але бабуля прайграла ў карты. Хацелі далей — у Парыж, але трапілі толькі ў Вільню», — распавядае Аляксандр.

У Вільні прадзед быў дырэктарам рускай гімназіі. А скандальна вядомы потым Барыс Кавэрда ледзь не стаў яго зяцем: быў жаніхом дачкі Люсі. «Потым яна сустрэла Рыжага Аляксандра Васілевіча, майго дзеда», — расказвае Аляксандр.

### Сяліба

Сяліба Рыжых — хутар Тарасаўка ў Свіслацкім раёне. Двухпавярховы дом і па перыметры ліпавая алея, вялізны сад, сажалка, аб якіх падбалі некалі продкі Аляксандра.

Продкі былі настаўнікамі. У доме было мноства кніг, але пасля апошняй вайны на хутары зрабілі памежную заставу. Памежнікі многае пакруцілі на цыгаркі.

Радавод Аляксандра Рыжага па-сапраўднаму зацікавіў, калі яму было 25 гадоў. Тады пачаў вывучаць гісторыю сям'і, што таксама надала штуршок, каб стаць выдаўцом.

### Гільяціна для паперы

«Паліграфія — лакмусавая паперка эканамічнага становішча дзяржавы. Калі добра ўсё працуе, паліграфія павінна быць таннай. Амаль нічога не каштаваць. Чаму? Бо гэта рэклама. Папяровая рэклама застаецца асноўнай. А танная паліграфія — таннае выданне кніг», — разважае Аляксандр. Адчуваецца, што ім гэта не раз абдумана. Ён працягвае: «Мяне заўсёды цікавіла: чаму ў Польшчы інакш? У тым жа Беластоку многа друкарняў. І там ёсць тэхналогіі, у нас іх няма. Абсталяванне, якое трапляе да нас, яно — учарашні дзень. Але яно каштуе грошы. Яго трэба набываць у крэдыт, і каб ён быў недарагім, або ў лізінг. У нас гэта немагчыма. Калі набыць зараз добры біндар (клеіць кнігі), гільяціну для паперы, то застанешся без нічога».

А колькі можа каштаваць? Трычатыры тысячы долараў за біндар і за гільяціну недзе так. Ну, і вокладка шмат значыць — добрая кніга павінна быць у цвёрдай. А цвёрдую ва ўсёй вобласці ніхто не робіць, кажа Рыжы. Дый часам друкаваць саму кнігу ён возіць у Мінск, як апошняе выданне Андрэя Павача «Пад крылом Каложы». Там добра робяць, хоць і даражэй на трацціну.

Мара Рыжага — мець друкарню поўнага цыклу. І пажадана афсетную. Але колькі трэба грошай — цяжка ўявіць, кажа Аляксандр. Другая мара — трохі мець вольнага часу, прызнаецца ён. Пяць год амаль без адпачынку. Заўжды на працы. Больш чым на два дні не адлучаўся.

# Фёдару Клімчуку — 80 гадоў

Вялікую дату адсвяткаваў Фёдар Данілавіч Клімчук. 27 лютага яму споўнілася 80 гадоў. Яго віншавалі калегі па Інстытуце мовазнаўства Акадэміі навук, якому ён аддаў доўгія гады працы. Да ганаравання далучыліся мовазнаўцы з Масквы.

Фёдар Клімчук нарадзіўся ў вёсцы Сыманавічы Драгічынскага раёна. Ён найлепшы ў свеце знаўца гаворак Берасцейшчыны і Піншчыны. А яшчэ ён унікальны знаўца фальклору гэтага рэгіёну. Сам ведае і спявае амаль тысячу песень, як «старовынных», так і «новішчіх».

У навуку ён ішоў няпроста. Пасля Пінскага настаўніцкага інстытута працаваў у школах Столінскага і роднага раёнаў. Пры гэтым завочна вучыўся ў Мінску. Толькі ў 33 гады паступіў у аспірантуру. Яму належыць выдатная праца «Гаворкі Заходняга Палесся: фанетычны нарыс».

Разам з іншымі мовазнаўцамі ён быў уганараваны Дзяржаўнай прэміяй Беларусі 2000 года ў галіне гуманітарных і сацыяльных навук за фундаментальны шматтамовы «Лексічны атлас беларускіх народных гаворак».



**Сяргей Гезгала**

# Ляпіс і Трубяцкі расплюваліся

Экс-лідар гурту «Ляпіс Трубяцкі» Сяргей Міхалок забараніў нашчадкам «Ляпісаў», гурту Trubetskoy, выконваць свае песні. Ён назваў Trubetskoy «незаконнымі сепаратыстамі і рэйдарамі» ды «кавер-бэндам». Спявак сцвярджае, што тыя спяваюць песні, ідэі якіх не падзяляюць. Новы гурт Міхалка, Brutto, не выконвае песні «Ляпісаў».

Trubetskoy пагадзіліся не выконваць «Ляпісаў» пасля шэрагу канцэртаў, дзе ўжо паабяцалі тыя песні спець. Паводле іх заявы, яны не былі гатовыя да зменаў меркавання Міхалка, які раней быў «найактыўнейшым прыхільнікам таго, каб непатрэбныя яму песні «Ляпіса Трубяцкога» выконваліся новым гуртом Паўла Булатнікава».

У час спрэчак Trubetskoy прэзентавалі беларускамоўны самотнік «Прывітанне ўсім наогул», у які ўвайшлі песні «Горад» і «Паэт» (апошняя на словы М. Багдановіча), а Brutto — рускамоўную песню з мацюкамі «Партызан-рок», якую адрасавалі супраць «рускага свету».

**Аляксандр Арсёнаў**

# Іра ў залатых басаножках

Апавяданне. Піша **Ева Вежнавец**.

Ахвотней за ўсё Іра гуляла па лесе, дзе ладзіла самотныя «пікнікі», беручы з сабой бабіну вышываную сурвэтку і ежу з лядоўні. А то яшчэ можна было капеек накрасці з бацькавых кішэняў і накупляць смачнот у краме. Іра запрашала суседскую Таню, і яны сыходзілі ў лес, дзе бавілі часам цэлыя дні. Так працягвалася аж да тае пары, калі ў вёску з арміі вярнуўся руды Дораш-свінабой і ў Іры пачаліся жахлівыя дні.

Быў ветраны ранак са скляўвымі плямамі сонца на траве пад яблыняю, калі Таня прыбегла да Іры. Дарослых дома не было, дзяўчынкі вынеслі ў двор цэлую гусятніцу з блінчыкамі і палову апрасталі.

Пасля, аблізваючы пальцы, Таня сказала:

— Ірка, пайшлі пабачым, Дораш сваю кошку з кацянятамі жыўцом закапаў, яна яшчэ дыхае, і зямля на баку падымаецца.

Дзяўчынкі пабеглі за вёску, прабеглі спачатку кукурузнае поле, а потым жытняе і наблізіліся да старой грушы, якая адна засталася стаяць у шчырым полі. Хадзілі цьмяныя показкі, што тут калісь быў кулацкі хутар з вялізным садам, жыла вялікая сям'я, а потым іх усіх пазвозілі, як негадзяшчых сабак, селішча зааралі. Толькі груша расце тут са старых часоў, падае, развальваецца, а з пня ў яе зноў груша прарастае, новая, і тую грушу рушыць нельга, бо гэта чортава месца.

— Тут! — сказала Таня. — Мы самі бачылі, як ён закопваў, кацяняты ўніз, а яе наверх. Яна не адкапаецца, бо кацянят не захоча кінуць. Бацька кажа, Дораш цяпер свіней б'е, сабак вешае і катоў зводзіць. Так што ўсе мужыкі цяпер свабодныя, а то не ўмеюць і жывёлы прыбіць, блююць. Давай зямлю палачкай адграбем, паглядзім, ці дыхаюць.




Апавяданне Евы Вежнавец «Іра ў залатых басаножках» друкуецца ў газетным варыянце. Пры канцы вясны яно выйдзе ў кнізе «Дванаццаць актаў». Пад адной вокладкай яна аб'ядне такіх непадобных аўтараў, як Уладзімір Някляеў, Ева Вежнавец, Людміла Рублеўская, Алесь Аркуш, Сяргей Прылуцкі, Юры Станкевіч, Алена Брава, Аляксандр І. Бацкель, Макс Шчур, Югася Каляда, Сяргей Вераціла… Ёсць і літаратурная містыфікацыя: маладая харызматычная аўтарка Марта Локіс.

Укладальнік, пісьменнік Уладзіслаў Ахроменка, кажа, што гэта будзе зборнік эратычнай прозы, але не толькі. «Акт — з'ява найперш мастацкая. А калі такіх актаў дванаццаць, то і чытацкае задавальненне мусіць стаць адпаведным».

Таня і Іра адгрэблі палачкамі зямлю і ўбачылі кошчын бок, каляровую поўсць, якая ўздымалася ад дыхання.

— Яна дыхае, — сказала Іра, — дыхае. Трэба адкапаць.

— Дораш сказаў: хто маю кошку адкапае, таго я швайкай закалю. Ты ведаеш, як ён свіней швайкаю коле і конаўкамі кроў п'е? Вочы ў яго ад таго красныя-красныя, як кроў, і чорныя-чорныя, як у крумкача. Ён вось так тыя страшныя вочы на нас вылупіў (Таня як магла вырачыла блакітныя вочы і для пастраху яшчэ разявіла рот) і кажа страшным голасам: «Дзеці, хто маю кошку выкапае, таму швайку засаджу, усю кроў вып'ю, а вушы адрэжу і сабакам пакідаю!» Мы спужаліся і паўцякалі.

— А нашто ён кошку закапаў?

— Пабл.душчая ў яго кошка. Трэціх кацянят прынесла.

— Дык лепей бы ён кацянят тапіў. Ім не баліць, яны сляпыя і глухія. Толькі пішчаць: міў! міў! міў!

— Не ведаю, Іра, толькі давай кошкі не выкопваць, яна вунь і так ужо дыхаць перастае, выкапаем, а яна толькі мучыцца будзе. Хай ужо дадыхае. А як Дораш дазнаецца, што мы выкапалі, дык не будзе нас на гэтым свеце.

— Танька, ты як хочаш, а я адкапаю, можа, і кацяняты жывыя. Я іх схаваю ў лесе і буду ім малако насіць.

— Ірачко, галубачко, не рабі ты таго! Я баюся.

— Ты ідзі за ламаччам стань і цікуй, ці не ідзе хто. А ад мяне адвярніся задам, потым скажаш: я не ведаю, што там дурная Мажэйкава рабіла.

Іра большай палкаю абвяла контуры ката і стала акуратна разграбаць зямлю, каб не параніць кошкі ці кацянят. Дагрэблася спачатку да хваста, а потым і да галавы. Кошка ляжала ў кавалку салафану, ашчэрыўшы зубы. Бок яе ўжо не ўздымаўся. Не дыхалі і трое маленькіх, як пацучаняты, кацянят.

Іра падняла загінулае сямейства ў кавалку салафану, потым паклала ў падол сарафаніка. Што з імі рабіць, яна не ведала. Зноў закопваць у зямлю — але там яны прынялі пакутніцкую смерць. Іра ведае, што такое быць закапанаму жыўцом, бабка распавядала, што адну дзяўчыну пахавалі, а потым яе брат з войска прыехаў, спазніўся на пахаванне, кажа: адкопвайце, развітаюся з сястрой. А дзеўка там у труне перавернутая, увесь твар і грудзі парадзіраныя і валасы павырываныя — так са страху сябе драла.

Іра пастанавіла занесці сям'ю і ўтапіць у канаве. Там яны стануць праскамі і вадзяной травой.

— Ну і што гэта ты робіш? — пачуўся раптам страшны мужчынскі голас, густы, нібыта з дзежкі. Іра рэзка ўскінула галаву і нейк разам пабачыла, як ціха адступае праз ламачча Танька і як выходзіць з кустоўя буйная мужчынская фігура ў калматай шапцы. Потым Іра ўведала, што Дораш ніколі не здымае сваю рудую лісіную шапку з хвастом.

Іра застыла, высока трымаючы прыполік белага сарафана. Дораш няспешна разгледзеў яе аленія ножкі з вострымі каленцамі, а потым узняў цяжкі позірк на Ірын твар, дзе вялікія вочы, востры нос і доўгі рот нібыта змагаліся за месца.

— Чыя ты такая?

— Мажэйкава Іра.

— Ага. Іра Мажэйка насатая. Давай сюды маіх катоў.

— Вы сволач! Не дам я ніякіх катоў вам!

— А ты ведаеш, хто я такі?

— Вы — Дораш, што свіней коле. Я вас не баюся. Як вы мяне заколеце, вас міліцыя забярэ.

Дораш памаўчаў з дзіўнай крывой усмешкаю. У яго сапраўды вочы былі і чырвоныя, і чорныя — бялкі налітыя крывёй, а колцы чорныя-чорныя, ды яшчэ і зрэнкі вялікія, нібыта налітыя смалою. Дзіўна, але блізарукая Іра бачыла Дораша ў кожнай драбніцы — кароткая рудая шчэць на шчоках і падбароддзі, клятчастая кашуля з закасанымі рукавамі, на плячы пінжак вісіць; штаны запраўлены ў кірзачы. І гэта дурная шапка. Іра не баялася яго, толькі дыхаць стала цяжка і ўцячы не было як — кошка з кацянятамі выпадзе з падола.

— Хадзі сюды, Бурацінка, не бойся, я табе аддам катоў дый яшчэ зоркі пакажу.

— Якія зоркі ўдзень? Удзень іх небам зацягвае і хмарамі. А вось ноччу іх відаць, бо неба адкрываецца.

— А ёсць месцы, адкуль удзень відаць, з пограба, калодзежа і з такіх спецыяльных месцаў. Я адно такое знаю.

— Не хачу я вашых паганых зораў. Нашто вы кошку закапалі? Знаеце, як ёй балела і страшна было? А каб вас жыўцом закапаць?

— Я магу ажывіць кошку. У мяне ў кармане бутэлечка з вадой, прамыем ёй нос і рот ад пяску, задыхае. Нясі сюды.

Іра не скранулася з месца, але Дораш стаў спакваля падыходзіць да яе, сунуўшы руку ў кішэню, нібыта даставаў адтуль бутэлечку. Потым акуратна ўзяў з Ірынага падоліка «салафан» з кацінаю сям'ёй (салафан-сарафан, вершык можна скласці, падумала Іра), паклаў іх пад грушаю, а Іру ўзяў за руку і сказаў:

— Вось тут, за грушаю, ёсць стары пограб, як ляжаш там, то адразу зоры пабачыш. Я ляжаў тут знаеш колькі начэй, глядзеў... Гэта такое ваўшэбнае месца.

— Я не буду нікуды лягаць, у мяне белы сарафан, мама будзе крычаць.

— Я падсцялю пінжак.

Дораш акуратна пасцяліў пінжак і стаў гнуць Іру, пакуль яна не легла. Потым расправіў сарафанчык:

— Бачыш, сарафанчык увесь на пінжаку, будзе цэлы і чысты.

— Пусціце мяне, я ніякіх зор не хачу!

Але Дораш толькі яшчэ мацней сціснуў Іру і ўвесь наваліўся на яе, нібыта гара.

— Мне дыхаць цяжка, пусціце! — крыкнула дзяўчынка.

— Не крычы, не крычы, а то вушка адкушу, — сказаў Дораш і прыхапіў зубамі Ірына вуха, а сам стаў калыхацца на Іры.

Потым прашаптаў ёй на вуха:

— Бачыш, мы нібыта ў лодачцы па возеры плывем, і зоры ў небе ківаюцца-ківаюцца.

Іра адчувала, што дзеецца нешта паганае, але што, даўмецца не магла, дый крычаць не хацела, яшчэ хто пачуе і ўбачыць, што на ёй ляжыць Дораш, а гэта «стыдна».

І яна вырашыла пацярпець, пакуль Дораш наківаецца, а потым схапіць катоў і ўцячы так, што толькі ламачча затрашчыць.

Але Дораш і не думаў спыняцца. Ён спачатку гладзіў Ірыны ногі, высока, высока, аж да майткоў. Маці казала Іры, каб яна сама не чапала трусікаў і і нікому не дазваляла, бо гэта стыдна.

Таму, калі Дораш пальцамі пачаў гладзіць Іру праз трусікі, а потым адсунуў іх перамычку, яна паспрабавала закрычаць і вырвацца, і тады Дораш заціснуў ротам Ірыны вусны, а ўніз жывата ўсадзіў ёй швайку.

«Ён мяне закалоў», — здагадалася Іра праз страшны боль. «Гэта кроў бяжыць па нагах, увесь сарафан будзе брудны, як знойдуць».

— Я толькі паважу, я рваць не буду, — мармытаў Дораш, ківаючыся на Іры.

— Вы мяне зарэзалі сваёй паганай швайкаю, — праз слёзы і боль сказала Іра, — дык закапайце з тымі кацянятамі.

Раптам Дораш напружыўся, абапёрся на рукі, усхапіўся і ламануўся прэч, пакінуўшы Іру на пінжаку.

Праз жыта да старое грушы беглі людзі, спераду імчала ў сваім зялёным плацечку Таня.

— Ён спужаўся і ўцёк, бо мяне зарэзаў і катоў пабіў. Яго трэба ў міліцыю, — сказала заплаканая Іра суседзям.

Вечарам Іру і Таню ў Ірынай хаце распытвала міліцыя — дзядзька і цётка з рыпучымі тэчкамі.

— Дораш мяне швайкаю пароў, ды не дабіў, — сказала ім Іра. — Але нос разбіў і катоў закапаў. І ледзь мяне не раздушыў.

— А ў чым ён быў адзеты?

— У ботах, шапцы, штанах і клятчастай кашулі.

— А рэмень быў?

— Быў, з бліскучай спражкаю, а на ёй зорка.

— Бачыце, мамаша, — сказаў міліцыянт Ірынай маме, што стаяла ў парозе. — Дзела не выходзіць. Адна кажа, што ён у ботах быў, другая — што ў бацінках. Адна кажа, папруга ў яго была са звяздой, а другая — што без папругі быў. Хімічаць нешта вашы дзевачкі.

— А як жа яго пінжак туды папаў? — спытала маці.

— А гэта, можа, і не яго пінжак. Стары нейкі, у карманах адна насоўка засмарканая. Чорт яго ведае, чый гэта пінжак, мо там і валяўся.

— Наша дзевачка такога не выдумае. Гэты бугай так і цягаецца па вёсцы, глядзіць, дзе шкоду якую ўпароць.

— Многа выдумляе. Не давалі б вы ёй столькі чытаць! А то сама прападзе і суседскай дзевачцы галаву задурыць. Дораш — герой, ён тысячу раз з парашутам саскочыў, салдат нашых ведаеце колькі ад душманаў спас?

— Мы ў раён, у вобласць паедзем скардзіцца, на вас там управу знойдуць, — прыгразіў бацька.

— Едзьце, ваша права. Ганьбіце дачку. І нашто вам яе пазорыць, яна ж цэлая засталася. Лепей дзеці глядзіце.

Міліцыянты пайшлі, маці з плачам села на крэсла. Іра прыціхла, разумеючы, што апазорыла бацькоў яшчэ горш. Ну чаму яна не такая, як усе, дый яшчэ ўліпла ў такую гісторыю? Цяпер хоць на вуліцу не вылазь, ні ў магазін не сходзіш, ні на ровары не пакатаешся. І бацька стаіць цёмны, галаву апусціў.

— Я ў раён, у вобласць паеду, я з ім разбяруся. Герой хрэнаў, камуніст сраны, — глуха сказаў бацька.

— Куды ты супраць яго...

Дзверы расчыніліся, і ў хату кумільгом уляцела старая Дорашыха, бухнулася на калені і загаласіла:

— Міленькія, родненькія, салодзенькія мае вы, гаспадара пахавала, зямельку парыць, адзін дурань на северы недзе, другі во здароўе згубіў, прыехаў, не вучыцца, не робіць, адзеты як пудзіла, не губіце, не губіце, адзін ён у мяне.

— Люба, забяры Іру спаць, канфет дай ёй, я тут з бабай сам разбяруся.

Доўга яшчэ з кухні чулася завыванне і галашэнне Дорашыхі і глухі бубнёж бацькі. Пра што дамовіліся, Іра не даведалася, але Дораш застаўся ў вёсцы, хадзіў калоць свіней усёй акрузе, гэтак жа забіваў іх адным ударам, так што ні кроў, ні мяса, ні сала, ні вантробы не псаваліся, гэтак жа выпіваў па кубку свіное крыві, нацадзіўшы яе з-пад свінога сэрца.

Праз два тыдні Іра ўсё ж асцярожна выехала з хаты на ровары. Ніхто з яе не засмяяўся, і толькі, праязджаючы ля Талашовага селішча, Іра пачула, як старая Талашыха сказала:

— Вось урод, яна ж дзіця дзіцем, яна і не разумее, што ён зрабіў.

Зрэшты, што ён зрабіў, расказалі Іры хлопцы, якія ўжо ў першым класе ведалі болей, чым ім трэба было.

Дораша Іра абыходзіла пятай дарогай і, заўважыўшы недзе рудую шапку з хвастом, уцякала чуйдух. І ён не чапаў яе, адварочваўся, сыходзіў, відаць, памятаючы дамову паміж маці і Ірынымі бацькамі. Але потым усё часцей і часцей стаў трапляцца Іры на вуліцы, і ўжо не адварочваўся, разглядаў тымі самымі, чорна-чырвонымі, сумнымі і цяжкімі вачыма.

Іра перастала спаць, па начах ёй здавалася, што пад ложкам затаіліся зялёныя ватныя коўдры, яны растуць, растуць, абдымаюць яе і душаць, душаць. Асабліва справы зрабіліся кепскія, калі Дораш падсцярог яе каля клуба, схапіў, запхнуў у дрывотню і ўсё аблапаў, а потым, прыціснуўшы да сцяны, доўга ківаўся на ёй, як «лодачка на моры».

Іра маўчала, сціснуўшыся ад страху і сораму, а Дораш шаптаў ёй на вуха:

— Не бойся, бурацінка мая, маленькая, я табе нічога не зраблю, пакалываемся трохі — і пайду. І не расказвай нікому, бо бацькам тваім і так сорамна, праходу не будзе.

Сыходзячы, Дораш сунуў Іры цукерку-смактушку. Цукерка, відаць, даўно валялася ў Дораша ў кішэні, бо ўся прасмярдзела цыгаркамі.

Ноччу, калі Іру душылі зялёныя коўдры, яна прачнулася ад уласнага крыку і зараўла яшчэ болей, пабачыўшы на сваім ложку чорны сілуэт.

— Ціха, гэта я, не бойся, — сказала бабка. — Мы зараз запрагаем і едзем да старой бабы, такой як я.

Да бабы Малышчыхі папаездзілі яны доўга. Спачатку старая баба дазваляла бабцы сядзець і глядзець, як яна лечыць Іру ад іспугу, а потым казала бабе ісці па дзярэўні пагуляць. У гэтыя сустрэчы старая баба і Іра не толькі гаварылі, але і чай з мёдам пілі, і тварог з мёдам, і агуркі з мёдам. У тае бабы ўсё было з мёдам.

Потым Малышчыха сказала:

— Дзетка, а нашто табе канём з бабай ездзіць? Тут 9 кіламетраў. Бяры веласапед — і ты ў мяне.

— Баба, я Дораша баюся. Ён да мяне падходзіць стаў.

— Дорашу мы дарогу знойдзем.

Ты ж ведаеш, дзе яго кошка ляжыць?

— Згніла, баба, з кацянятамі, як дажджы пайшлі. Танька казала. Адна поўсць і косці засталіся, Танька палачкаю калупала.

— Схадзіце туды з Танькаю, папрасі, каб папільнавала, скажы, што хочаш прыкапаць кошку. А пару якіх такіх костачак і поўсці трохі закруці ў салафан і мне прынясі. Толькі адна туды не хадзі, і Таньцы не кажы, чаго ідзеш. Нікому не кажы — ні маме, ні бацьку, ні бабе, ані дзеду.

— Ды дзеду кажы не кажы, глухі зусім стаў.

Няпроста было Іры адолець агіду і сабраць парэшткі ў салафанавы мяшэчак. Затое з Танькаю яны зрабілі кошцы і тром шкілецікам цудоўную магілу, у каробцы з-пад абутку, выкладзенай «золаткам» ад цукерак і абклеенай каляровай паперай, і з вялікім «сакрэцікам», на які Танька не пашкадавала брылы з зялёнага шкла, на якой стаяў у іх у зале вазон.

Чарговага разу, калі бабка адвезла Іру да Малышчыхі, а сама пайшла «гуляць па падругах» (адкуль прыходзіла, злёгку клюкнуўшы і развесяліўшыся), тая зачыніла дзверы і на зашчапку, і на ключ.

— Ката прынесла?

— Прынесла.

— А тое прынесла?

— Прынесла.

— А дзе ўзяла?

— Падкралася і вырвала, як за клубам п'яны спаў.

— Добра. Точна яго? Перахрысціся!

— Ды яго, яго!

Баба ўзяла спаліла валасы, попел з кацінымі касцямі кінула ў чыгун, дастала з-за абразоў пляшку і паклікала Іру:

— Ну-тка, нясі сюды ручкі.

Малышчыха палівала Іры рукі вадой над чыгуном і шаптала, і вада цякла спачатку шэрая, брудная, а потым сіняя («спуг выходзіў»), а потым празрыстая, светлая. Наварыла тае гадасці, нашаптала, засмярдзела ўсю хату. Наліла ў пляшку, заторкнула. Дала Іры бутэльку і нейкі вузлік.

— Дзевачка мая, ты ведаеш, дзе яны жывуць?

— Хто?

— Дораш з маткаю.

— Ну ведаю.

— Дык ты ідзі ўночы туды і пад ганак вузлік закапай ды вадзічкаю гэтай палі. Уночы, цёмначы. Сабаку іхняму хлеба дай, каб не брахаў.

— Не будзе іхні сабака брахаць. Ён сарваўся і ўцёк, бо Дораш яго біў.

— Ну і добра. Толькі сама вылі. Тады баяцца перастанеш, спуг пройдзе і зялёныя адзіялы пройдуць. Ну, і Дорашу дарогу пакажам.

— Куды, бабо, пакажам?

— Далёка. І не бойся нічога, я за цябе маліцца буду. На во табе крыжык на шыю, са святой зямлі.

Ноччу, калі бацькі паснулі, Іра апранулася, надзела бацькаву рыбацкую куртку і выйшла на вуліцу. Зоры гарэлі ў небе, калыхаліся, свежасцю пахла з усіх кутоў, пабрэхвалі сабакі, але не надта стараючыся, бо Іра была свая. Яна паклала бутэльку ў вялізную бацькаву кішэню, і тая часта біла яе па назе. Ад курткі патыхала хлебам, якім тата падкормліваў рыб, дзедавым тытунем і няўлоўным пахам роднага дому, які трохі гамаваў страх.

Па лістах ззаду нешта зашурхала, пайшло за Іраю, нібыта невялікі сабачка. Іра сціналася ад страху, баючыся азірнуцца, але, праходзячы ля канторы і трапіўшы пад аддаленае святло адзінага ў вёсцы ліхтара, пабачыла каціны цень і такі азірнулася трошкі. За ёй ішла котка, паласатая-насатая Дорашава котка, але гэта не магла быць Дорашава котка, бо тая не адкідвала б ценю. І, напэўна, за ёй ішлі б таксама мёртвыя кацяняты, а тут ідзе адна котка, суцяшала сябе Іра. Ды і духі не шуршаць лістотай. Аднак страх усё рос і рос, адной рукой Іра сціскала крыжык на шыі, а другой пляшку ў кішэні, і сорак разоў пачынала малітву «Ойча наш», і з перапуду ні разу не скончыла.

Ніколі Іра не забудзецца на гэты начны паход, і ніколі не забудзецца жаху, з якім закопвала вузлік і палівала вадой з бутэлькі. Коткі не было бачна, толькі ціха, шурстка праносіліся цені мятлушак і дробных кажаноў.

Назад Іра бегла, некалькі разоў упала, абадрала рукі і калены, угваздала бацькаву куртку.

Але з гэтае начы яна спала спакойна.

### Эпілог

Калі Іра ўбачыла Дораша, які ішоў сцежкаю да іх хаты, яна ўхапіла хлебны нож і пабегла ў сенцы. Але на ганку Дораша перастрэў бацька ў сваёй старой куртцы, ішоў з хлява.

— Мажэйка, прасці за дочку.

— Што, прыперла? Ты ж казаў, што не чапаў яе. Чаго ж цяпер ходзіш і просіш?

— Паміраю я. Бачыш, як мяне расперла? Дактары кажуць, цыроз, не пражыву я доўга. А я знаю, што не цыроз гэта, а кроў свіная мяне распірае. Дапіўся. Калоў свінню, парэзаў пальца, а адтуль як пацячэ чорная, густая, страшная. І не сціхае, не сціхае, не скручваецца.

— Бог прасціць.

— А бачыш, як мяне раздула, жывот такі, што ног не бачу. Пазаві малую, на калені стану.

— Малую я зваць не буду, і на калені не станавіся. Маці твая папастаяла тут на каленях, хопіць. Дый не дакажаў бы я нічога. Але прасціць цябе не магу.

— Дай я табе яблыні прышчаплю. Прашчальныя яблыкі мае ў садзе ў вас будуць.

— І яблык прашчальных тваіх нам тут не трэба.

Іра стаяла, калоцячыся на халоднай падлозе ў сарочцы, слухала і разумела, якая дарога чакае Дораша.

Праз шмат гадоў, брындаючы па могілках, яна натыкнулася на яго магілу і пабачыла, што яму было ўсяго пад трыццаць. На медальёне ён выглядаў яшчэ маладзейшым і быў без свае хвастатае шапкі.

Ва ўсіх ваколічных лясах растуць «прашчальныя яблыні» Дораша, якія ён хадзіў і шчапіў, пакуль мог.

Іра пакачала яблык доўгай нагой у залатым басаножку. Цяпер ёй самой троху за трыццаць. Як завецца гэты яблык, увесь у сіняках, як наша доля? Белы наліў. Яшчэ вядуцца ў лясах такія яблыкі: бэры, дулі, апорты, ранеткі, цыганкі (шызыя кастрычніцкія) і антонаўкі. Дораш умеў біць свіней і шчапіць яблыні.

А Іра паказала яму дарогу.

# Валянціна Барадуліна: 53 гады разам з геніем

Удава Рыгора Барадуліна апублікавала (дзякуй самаадданаму Сяргею Шапрану) успаміны пра свайго мужа, народнага паэта Беларусі. Яны нязвыклыя. Няма ў іх уласцівага некаторым мемуарам прыхарошвання, «пра мёртвых або добра, або...». Мы не можам апублікаваць іх цалкам — яны на 17 старонак «Дзеяслова». **Гэта вельмі вартасны тэкст**: пра час, пра лёс, пра характары, пра ролю жанчыны ў мужчынскім жыцці і мужчыны — у жаночым. Падаём урыўкі.



У выхаванні дачкі, а пасля і ўнучкі Дамінікі, Грыша ніякага ўдзелу не браў. Запомнілася толькі, што быў на Камароўцы разам з Ілонай, калі ёй было гады два-тры, дый толькі таму, што я ў гэты час у бальніцы ляжала. А на Камароўцы тады прадавалі малдаўскае віно ў бочках, таму Грыша і хадзіў.

* * *

Па вялікім рахунку, вялікіх праблем з ім у мяне ніколі не было. Ён не ўсчыняў скандалу, калі была непрасаваная кашуля. Любіў абіраць бульбу, прычым яна атрымлівалася ў яго такая кругленькая, нібыта маладую аблупілі. І нават мог посуд памыць. Што ж тычыцца ежы, дык усё, што ні згатую, было, па яго словах, вышэй за ўсялякія пахвалы. У гэтым сэнсе Грыша не быў пераборлівы. Любіў штовечар есці мерзлае сала з часныком. Вельмі любіў свежую капусту, калі яна была на баранінцы ці свінінцы.

Па хаце Грыша нічога не рабіў. Пыласос браў у рукі двойчы за жыццё: калі мы першы пыласос набылі і калі другі — ён іх праваравў дый толькі... А калі перастаў піць, дык увогуле не было ніякіх праблем.

Піць ён кідаў двойчы. Першы раз у 1974 годзе, не піў месяцаў восем, але на Новы год сарваўся. І калі на першага мая сышліся ўсе Вялікадні разам, Грыша дужа доўга хадзіў па гасцях, у выніку ў яго здарылася атручэнне алкаголем. Ён патрапіў у бальніцу, а да яго — госці з каньяком. І доктар па маёй просьбе папярэдзіў: «Калі вып'еце хоць пяцьдзясят грамаў — развітвайцеся з жыццём». Шчыра кажучы, я думала, што Грышу гэта не напалохае, але ён так спужаўся, што кінуў піць назаўсёды. Праўда, спачатку я яшчэ ахоўвала яго ад некаторых гасцей, каб не справакавалі яго, аднак ён ужо сам прыняў рашэнне больш ніколі не піць.

Чаму Рыгор піў? Гэта пачалося яшчэ ў студэнцкія часы, пасля працягвалася ў тых рэдакцыях, дзе ён працаваў... А мо піў яшчэ таму, што я такая памяркоўная жонка была. Але ж я вырасла ў доме, дзе былі або ўдовы, або старыя дзевы, і думала, што так і трэба, што ва ўсіх сем'ях мужчыны п'юць.

* * *

Я павінна прызнацца, што не думала, што Рыгор — такі глыбокі чалавек і паэт. Мне здавалася, што ён найперш лірычны дый толькі, а калі прачытала ягоныя «Ксты», зразумела, што памылялася. Гэта было для мяне тым больш дзіўна, што Рыгор у апошнія гады не чытаў філасофскія кнігі. Значыцца, я проста недаацэньвала яго...

* * *

Думаю, што ён усё ж быў геніем. Праўда, я ніколі не гаварыла яму пра тое. Я і дзяцей сваіх, Ілону і Дамініку, рэдка калі хваліла. Мне не тое, што шкада было сказаць добрае слова... проста я занадта ўжо стрыманая. І не было ў мяне такога, каб лішні раз чмокнуць дочачку ці ўнучачку, таму яны і выраслі калючыя. Такі характар у мяне, відаць, ад мамы, бо яна таксама не дужа ласкавая была. Хоць я, канечне, шкадую, дужа шкадую цяпер... Бачачы гэтую маю стрыманасць і няласкавасць, мне яшчэ Акуліна Андрэеўна казала: «Ласкавае цялятка дзвюх матак ссе». Але Рыгора гэта, відаць, задавальняла, ён быў ласкавы за нас абаіх...

Ці цяжка было жыць разам з геніем? Вядома, цяжкавата. Мне так і казалі ягоныя сябры яшчэ ў маладосці, што я — маці-гераіня, бо магу жыць з такім вось чалавекам, і што ў мяне шасцёра дзяцей: дачка ды Рыгор, які адзін пяцёх варты, таму мне трэба бронзавы помнік яшчэ пры жыцці паставіць... У Рыгора ж былі такія чалавечыя якасці, якія мне з маладосці ў ім не падабаліся, аднак я даўно зразумела, што змагацца з гэтым, спрабаваць нешта змяніць у Рыгоры абсалютна марна. Таму й не спрабавала нешта перамяняць.

* * *

У маладосці ён быў шустры і вясёлы, а ў старасці стаў поўнай процілегласцю сабе маладому.

* * *

Я вырасла без бацькі і ў камунальнай кватэры, дзе мужчынаў не было, і не ведала, якімі павінны быць адносіны паміж мужчынамі і жанчынамі. Я думала, што так, як у нас было з Рыгорам, так ва ўсіх, і таму ставілася да гэтага як да непазбежнага, думала, што трэба проста неяк трываць, такі ўжо лёс. Відаць, таму мне было прасцей трываць нейкія такія рэчы, якія іншую жанчыну абавязкова напалохалі б. У дадатак у мяне яшчэ такі характар, што я, мусіць, з любым чалавекам ужылася б.

Зрэшты, я ніколі не шкадавала пра тое, што выйшла замуж за Рыгора. Усё жыццё мы пражылі роўна і спакойна, апроч, вядома, тых дванаццаці гадоў, калі ён піў...

* * *

Пра адну рэч цяпер шкадую... Грыша ніколі не гаварыў, што хацеў вялікую сям'ю. У нас жа маглі быць яшчэ дзеці, але ён казаў: «Сама глядзі...» Справа ў тым, што пакуль ён піў, я не хацела больш дзяцей, бо было страшна: а раптам адна з дзецьмі застануся... Вядома, я збаялася. І цяпер шкадую, што ў нас толькі адна дачка...

* * *

Ён, канечне, мог яшчэ пажыць, бо быў у прынцыпе здаровы, апроч хваробы Паркінсона, якая рабіла яго рукі паралізаванымі, ад чаго ён пісаў такімі маленькімі літарачкамі, як макавае зерне. Апошні верш, прысвечаны Гену Бураўкіну, ніхто цяпер прачытаць не можа...

Ён не хацеў, каб яго на калясцы вывозілі на вуліцу. Саромеўся свайёй бездапаможнасці. Такі стан дужа прыгнятаў яго.

* * *

У той апошні свой дзень Грыша прачнуўся як заўсёды — звычайна ён прачынаўся ў дзевяць гадзінаў, а палове дзясятай, сам уставаў і нават умудраўся перасесці з ложка ў крэсла. Пасля я прыносіла яму памыцца, затым сняданак... Ужо ўдзень да яго прыйшоў Валерый Дубоўскі, і яны прагаварылі гадзіны дзве, хаця, хутчэй, Валерый гаварыў, а Грыша больш слухаў... Затым я памыла і нарэзала яму яблыкаў. Праз нейкі час прыходжу: «А чаму ты яблыкі не еў?» Ён пачаў разварочвацца ад стала, я падышла да яго, абхапіла крэсла, у якім ён сядзеў, ён павярнуў галаву, хацеў нешта сказаць, але два разы неяк так усхліпнуў, і галава ўпала проста мне на рукі...

А апошнія яго словы... Ён сядзеў за сталом, я ляжала на канапе побач, ён паглядзеў на мяне і кажа: «Якая ты ў мяне прыгожая!» Гэта былі яго апошнія словы.

**Запісаў Сяргей Шапран**




**Дзеяслоў №74**

Моцны выпуск беларускага літаратурнага часопіса нумар 1

Віктар Казько. Свята мужчынскага смутку

Франц Сіўко. Цымант

Паліна Качаткова. Гульні з морам

Ніл Гілевіч. Запісы розных гадоў

Зянон Пазняк. Гісторыі з савецкага часу

Сяргей Шапран. Уладзімір Някляеў. Незавершаная аўтабіяграфія

Ды шмат іншых выдатных імёнаў




СЯРГЕЙ ЗІНІН

**Вось так адрэагавалі неабыякавыя мінчукі на з'яўленне сцяга тэрарыстаў «Наваросіі» ў салоне джыпа, прыпаркаванага непадалёку ад універсама «Суседзі» ў Мінску. Два прабітыя колы — намёк аматару вайны, што не ўсе яго падтрымліваюць.**



СЯРГЕЙ ЗІНІН

**Міністр аховы здароўя Васіль Жарко (другі справа) са спявачкай Аляксандрай Гайдук (справа) на цырымоніі ўзнагароджвання адкрытага публічнага конкурсу «Трыумф. Героям спорту — 2014».**



**Вікторыя Азаранка пасля перамогі над Вінус Уільямс сфатаграфавалася з Дэвідам Бэкхэмам. Знакаміты англійскі экс-футбаліст прысутнічаў на гульні 1/2 фіналу турніру ў горадзе Доха, калі беларуска абыграла амерыканку і выйшла ў фінал. Праўда, у вырашальнай гульні ўдача адвярнулася ад Вікторыі.**



НАСТАССЯ ХРАЛОВІЧ

**У Мінску з'явілася новае месца, дзе аматары народнай музыкі штосераду могуць сутрэцца з сябрамі ды патанчыць. Легендарны «Дударскі клуб» аднавіў сваю дзейнасць. Ён збіраецца па серадах а 19-й гадзіне ў Jack Club (Няміга, 12).**



## Анекдоты і жарты

* * *

Дасведчаны прадавец кавуноў адной пстрычкай па галаве можа вызначыць, гатовы сын да іспытаў ці не.

* * *

Быў сёння на сумоўі ў кампаніі. HR-менеджар дала мне ноўтбук і сказала: «Паспрабуйце мне яго прадаць!»

Я ўзяў ноўт і выйшаў з ім з пакоя. А затым... наогул сышоў. Калі я прыйшоў дадому, мне патэлефанавала менеджар і стала істэрычна крычаць: «Зараз жа вярніце мой ноўт назад!»

Я адказаў: «200 баксаў — і ён ваш».

* * *

Убачыць жаніха ў вясельнай сукенцы нявесты да вяселля — дрэнная прыкмета.

* * *

Якая б непрыемная сітуацыя ні наступіла, заўсёды знойдзецца хтосьці, хто яе прадказваў.

* * *

Часам я адчуваю сябе зусім некарысным, але затым успамінаю, што дыхаю, выпрацоўваючы пры гэтым вуглякіслы газ для раслін.

* * *

Бывае так: збіраеш-збіраеш на «Ферары», а потым раптам зрываешся і купляеш праязны на трамвай.

* * *

У праўдзівага расійскага патрыёта так: дзеці ў Англіі, рахунак у Швейцарыі, дом у Германіі, віла на Канарах, кватэра ў Амерыцы, пасада ў Расіі.

* * *

Дрэнна не тое, што на трыццаціГоддзе бабуля дорыць табе 200 тысяч рублёў.

Горш іншае: тое, што ты на іх рэальна разлічваеш.

## «НН» сто гадоў з вамі

**У Вільні паліцыя забараніла** шарманшчыкам прадаваць білеты з варожбамі аб вайне і міры.

**«НН». №9. 1915.**

**Гуканне Лукашэнкі.** 1 сакавіка 10 тысяч мітынгоўцаў на вуліцах краіны. Прадпрымальнікі, што прыпынілі дзейнасць і з гэтага дня перасталі выплочваць падаткі, патрабавалі сустрэчы з Лукашэнкам у ягонай рэзідэнцыі. Людзі выйшлі з лозунгамі «Далоў ПДВ», «18% ПДВ. Можа, вам аддаць 100%?» У выпадку невыканання патрабаванняў прадпрымальніцкія лідары абяцаюць страйк і масавы мітынг на 25 Сакавіка. Арыштаваны Шумчанка, аштрафаваная Багдановіч, але пратэст не набыў палітычнага характару.

**«НН». №9. 2005.**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Таццяна Кур'ян
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара — Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 7001. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 03.03.2015.
Замова №930.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614

